ГОД VIII ЛІПЕНЬ - ЖНІВЕНЬ 1954 г. № 61

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

## ДВУМЕСЯЧНЫ ЧАСАПІС БЕЛАРУСКАЕ РЭЛІГІЙНАЕ ДУМКІ

---



ЦУДАТВОРНЫ АБРАЗ ВАСІЛЬКАЎСКАЕ МАЦІ БОЖАЕ

**BOŽYM ŠLACHAM**

**(SUR LA VOIE DIVINE)**

BULLETIN RELIGIEUX BIELORUSSIEN BIMESTRIEL

Année VIII. N° 61 Juillet-Août 1954

51, rue des Sts-Pères — PARIS - VI<sup>e</sup>

| Перадплата «Божым Шляхам» на 1954 г. | | |
|---|---|---|
| | За адзін нумар | На год |
| Францыя | 60 фр. | 350 фр. |
| Англія | 1 ш. 10 пэн. | 8 шыл. |
| Аргэнтына | 2 пэз. | 10 пэз. |
| Аўстралія | 2 ш. | 10 шыл. |
| З. Ш. А. | 20 цэн. | 1 дал. |
| Бэльгія | 8 б. фр. | 50 б. фр. |
| Данія | 1 д. кар. | 6 д. кар. |
| Канада | 20 цэн. | 1 дал. 20 ц. |
| Нямеччына | 80 пф. | 5 н. м. |
| Швэцыя | 1 ш. кар. | 6 ш. кар. |

Грошы слаць на адрасы:

У ФРАНЦЫІ:

Chèque Postale : Paris c. 6287 44
R. P. Horosko Leo, 95, rue de Sèvres, PARIS VI°.

У АНГЛІІ:

Rev. dr. C. Sipovic, Marian House, Holden Avenue, LONDON N. 12.

У АРГЭНТЫНЕ:

Asociacion Bielorusa en la Argentina C. Coronel Sayos 2981.
4, de Junio, Buenos Aires.

У АЎСТРАЛІІ:

Mr. Jackievicz Donat, 60, Fisher Str.
East BRISBANE. Q-ld.

У БЭЛЬГІІ:

M. l'Abbé Czerniaŭski François, Michelse 202. LOUVAIN.

У НЯМЕЧЧЫНЕ:

Dechant Michael Moskalik. Konto, N° 135259, P. Sch. A. Hannover.
in Goslar,

**КНІЖКІ ДА НАБЫЦЬЦЯ.**

У Беларускіх Каталіцкіх Місіях у Лёндане і Парыжы можна купіць наступныя беларускія кніжкі:

Друя В. — Ты і яна. 250 фр — 6 шыл.
а. Л. Гарошка — Душа 40 фр. — 1 шыл.
а Л. Гарошка — Паходжаньне чалавека 20 фр. — 10 пэн.
а. Л. Гарошка — Сьв. Еўфрасіня — Прадслава Полацкая 150 фр.— 4 шыл.
Г-і Я. — Казкі № 2 — 30 фр. 15 пэн.
Г-і Я. — Казкі № 3 30 фр. 15 пэн.
Равенскі М. Арсеньева Н. — Магутны Божа. Песня з нотамі. — 5 фр. 3 пэн.
Народная казка — Музыка і чэрці 40 фр. 1 шыл.
Сяднёў М. — Цень Я Купалы 30 фр. 15 пэн.
Каваль П. — Беларусь у датах, ліках і фактах (друг. выд.) 450 фр. — 13 шыл.
Змагар А. — Случчакі-Апавяданьне—100 фр. 2 ш.
Змагар А. — Рэпка-казка — 30 фр. 15 пэн.
Малітаўнік «Божым шляхам» 80 фр. 2 шыл.
Малітаўнік «Holas Dušy» 200 фр. 5 шыл.
Камплет часапісу «Божым шляхам» за мінулыя гады 2500 фр. — 2 ф. і 10 шыл.

M. Bahdanovic — Weissruthenischer Heimat. Lyrik — 50 фр. 2 шыл.

Зьвяртацца на адрасы: У Францыі:

R. P. Horosko Leo, 95, rue de Sèvres, Paris VI.

У Англіі: Rev. dr. C. Sipovic, Marian House, Holden Avenue, LONDON N. 12.

У Нямеччыне: Weissruthenischer Caritasdienst in Deutschland. (20b) Goslar/Harz, Sommerwohlenstrasse 1 A.

# З беларускае народнае мудрасьці

З жыру сабака шалеець. (Калі багаты бяспутнічае).

З касою пагоды не чакаюць. (Неабходная справа не адкладаецца).

З кім жыць, таго не гнявіць.

З кім павядзешся, ад таго набярэшся.

З ліхім чалавекам то і гадзіна векам.

Злоба людзкая межаў ня знае.

З людзьмі жыві, а з Богам памірай.

З малое іскры бывае вялікі пажар.

З моладу балі спраўлялі, а пад старасьць жабракамі сталі.

З моладу прарэшынка, а пад старасьць дзірка. (Грахі моладасьці на старасьці пакутуюцца хваробамі).

Знаў Бог, што ня даў сьвіні рог, а то ўвесь сьвет перавярнула-б.

Значан сокал па ляту, а сава па воку.

З незабітага мядзьведзя шкуры не дзяруць.

Золата і ў краме дастанеш, а розуму нікому ня прыставіш (Бедны разумны лепш за багатага дурня).

Зраду прыймаюць, а зрадніка вешаюць.

З разумным пагаворыш — вума набярэшся, а з дурнем — і пасьледні страціш.

З роднай старонкі і варона сястра.

З чужога воза хоць сярод балота злазь.

З чым у калыску, з тым і ў дамавіну (Аб характары).

Зьняўшы галаву, па валасох ня плачуць.

З якім спазнаешся, такім сам стаешся.

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

Год VIII. ЛІПЕНЬ-ЖНІВЕНЬ 1954 г. № 61


# 1054 - 1954

Дня 16 ліпеня 1054 году папскія легаты палажылі на аўтары сьв. Сафіі ў Канстантынопалі бульлю, якою адлучалі ад каталіцкае лучнасьці Канстантынопальскага патрыярха Міхала Керулярыя.

Ад таго часу прайшло 900 гадоў. Насупраць прыказкі, што «час гоіць раны», у гэтым выпадку вялікая рана на целе Хрыстовае Царквы не зажыла. І так ужо на працягу 900 гадоў каталіцкі і праваслаўны сьвет не адпраўляюць Божае Службы ў адной і той самай сьвятыні на тым самым аўтары, хоць іхняя вера ў сьв. Тройцу, у сьвятыя Тайны ў сваёй аснове аднолькавая; хоць з такою самаю пабожнасьцю зьвяртаюцца ў малітвах да Багародзіцы і да шматлікіх сьвятых.

Падзея з 1054 г. адбілася вельмі балючым рэхам у жыцьці беларускага народу, дык зацікаўленьне беларусаў да гэнае падзеі і ў першую чаргу да яе прычынаў мае вельмі глыбокае абаснаваньне. Затрымаемся тут прынамся над галоўнымі прычынамі падзелу хрысьціянства.

Ня гледзячы на шматлікія элемэнты ў будове Рымскае імпэрыі, якая аб'ядноўвала рознаякія народы і культуры ў адно, яна ніколі ня сталася монолітам. Рымскі парадак, грэцкая філязофія, усходнія бога-культы, гандаль — усё гэта квітнела на прасторы ўсяе імпэрыі і да пэўнае ступені яе цэмэнтавала. Аднак розьніцы паміж вялізарнымі правінцыямі імпэрыі, паміж яе народамі ніколі ня зьнікалі. Гэтыя розьніцы сталі асабліва праяўляцца ў той час, калі сама імпэрыя дажывала свой век і калі пачала раскладацца.

Два найважнейшыя народы рымскае імпэрыі: рымляне і грэкі былі далёкімі адзін ад другога. Рымлянін — цьвярозы, ясны, цьвёрды аж да зьверства — гэта тып добрага здабыўцы, адміністратара, юрыста. Зусім іншы тып грэцкага гэнія — рудавы, далікатны, з буйнай фантазіяй; ён у сваёй натуры меў нахіл да паэзіі, філязофіі, мастацтва. Прыгаство і выробленасьць грэцкае клясычнае мовы паланіла здабыўцу рымляніна. І хаця прыйшоў той час, што рымляне перайшлі на лацінскую мову як у найбольш урачыстых гутарках так і ў пісьме, але грэк ніколі ня прызнаваў нават правоў роўнасьці для лацінскае мовы ў сьвеце культуры. Быў час, калі грэкі пагарджалі лацінскаю мовай, а пасьля проста толькі талеравалі яе.

На самай мяжы IV і V стагодзьдзяў Рымская імпэрыя канчаткова дзеліцца на дзьве: Заходнюю і Усходнюю. У пятым стагодзьдзі Заходняя імпэрыя ня вытрымоўвае націску розных нармандзкіх народаў і развальваецца. На яе руінах астаецца непадзельнай Каталіцкая Царква пад кіраўніцтвам папы Рымскага і творыць новую хрысьціянскую цывілізацыю. Тагачасны Захад шукае новых шляхоў, бо ня мае традыцыі.

Зусім што іншае творыцца на Усходзе, якога сталіцай ад часоў імпэратара Канстантына сталася Бізантыя, ад імя імпэратара названая Канстантынопалем. Тут утрымалася даўнейшая рымская імпэрыя і праіснавала тысячу гадоў пасьля таго, як разваліліся яе заходняя часьць. Не дарма грамадзяне бізантыйскае імпэрыі называлі сябе рымлянамі. Гэтыя «рымляне» глядзелі звысока і з пагардай на «барбарскі» Захад, які з свайго боку чым больш мацнеў, тым больш з пагардай і недаверам, а часам і пагрубіянску адносіўся да ўсяго, што было «ўсходнім».

Апрача таго было нямала іншых прычынаў, якія паглыбляючы розьніцы і нязгоду між Рымам і Канстантынопалем, які ад часу Халкідонскага сабору, пачаў сябе называць «Новым Рымам».

Бізантыя — пазьнейшы Канстантынопаль — да часу перанясеньня туды сталіцы, была маленькім гарадком, а ягоны япіскап быў вікарым мітрапаліта Тракійскае Гэраклії. Ад мамэнту перанясеньня імпэратарскага аседку ў Бізантыю ў тамтэйшых япіскапаў зьяўляецца амбітнае жаданьне паднясеньня свайго пасаду да вышэйшае ступені. З гэтаю мэтаю была выдумана лягенда аб прабываньні ў Бізантыі ап. Андрэя і заснаваньня ім тамтэйшага япіскапскага пасаду. Наступна на Халкідонскім саборы зроблена стараньні праўна прысвоіць Канстантынопальскаму пасаду другое мейсца пасьля Рыму, хоць Ерузалімскі і Антыёхійскі патрыяршыя пасады былі бязумоўна старэйшымі і зьвязаныя сваімі пачаткамі з імёнамі першых апосталаў. Прычына гэтых стараньняў была зусім ясная; яна ня была ні духоўнага, ні царкоўнага характару. Канстантынопальскі патрыярх дамагаўся правоў пяршынства толькі таму,

што знаходзіўся ў горадзе, дзе жыў галава дзяржавы — імпэратар. А трэба ведаць, што бізантыйскія імпэратары, стаўшыся хрысціянамі ў IV ст., затрымалі ўвесь цэрэмоніял даўных паганскіх імпэратараў, якім будаваліся сьвятыні нароўні з багамі і перад якіх статуямі палілася кадзіла. Хрысьціянскія імпэратары Бізантыі адракліся «боскіх» гонараў, але затрымалі амаль бяз зьмены калішні прыдворны цэрэмоніял, што быў наскрозь рэлігійны. Імпэратар уважаўся за прадстаўніка Бога на зямлі. Ён назначаў патрыярхаў, япіскапаў і скідаў іх з пасадаў, калі яму не дагаджалі, ён-жа склікаў саборы.

Надужыцьцё сьвецкае ўлады ў духоўных справах у Канстантынопалі было ў вялікай меры прычынаю непаразуменьняў паміж Канстантынопальскім Патрыярхам і Папаю Рымскім — усе паважнейшыя гісторыкі ў гэтым згодныя, але да гэтага даходзілі іншыя розьніцы. Найбольш відавочнай была розьніца ў літургічных абрадах, іншы быў падыход да некаторых сьвятаў, інакш наладжана адміністрацыя; цэнтралізацыя ў Заходняй Царкве і свабода ўва Усходняй, накладалі сваё тауро на шматлікія формы рэлігійнага жыцьця. Дык ня дзіва, што ў другой палавіне IX ст., калі ў Канстантынопалі патрыярхам быў Фоцій і вынік закалот з ягоным папярдэднікам на патрыяршым пасадзе, дык прыйшло да фармальнага разрыву паміж Канстантынопальскай і Рымскай Царквою.

Навейшыя гісторыкі цьвердзяць, што Фоцій памёр паміры́ўшыся з Папаю, але не зважаючы на гэта, скандальны разрыў за яго часоў і літаратура, якая ў тым часе зьявілася з-пад пяра Фоція, былі цяжкімі паказьнікамі на будучыню. Да часоў Фоція Рымскі архірэй меў апошні голас ува ўсіх рэлігійных спрэчках Усходняе Царквы і ў дэфініцыях праўдаў веры з нагоды розных гэрэзіяў, а Фоцій першы зрабіў закід, што Рым сам падпаў пад гэрэзію, бо інакш разумее навуку аб паходжаньні Сьв. Духа, увёў цэлібат сьвятароў, выдаў загад пасьціць у суботы і ін.

У асобе Фоція прыйшлі да голасу ўсе тыя гістарычныя, культурныя, тэолёгічныя, праўналітургічныя і звычаёвыя розьніцы, якія існавалі між Захадам і Усходам. Да гэтага нятакты і амбіцыі з абодвых бакоў ня былі гаючым бальзамам на раны ў еднасьці Хрыстовае Царквы. Трэба было толькі іншае нагоды і абставін, каб еднасьць Царквы была парушана на доўгія часы.

На гэткую нагоду доўга чакаць не давялося. Яна здарылася, калі Канстантынопальскім патрыярхам стаўся амбітны Міхал Керуляры. Пад ягоным уплывам Ахрыдзкі архіяпіскап Леў напісаў ліст да лацінскага біскупа ў Трані, робячы ў ім закіды лацінькам, што яны ўжываюць ў Службе Божай прэсны хлеб, посьцяць у суботы, скасавалі ўжываньне алелюя і інш. Хоць ліст быў адрасаваны да аднаго біскупа з Трані, а не да Папы, але ў той час было ясна, што вастрыё ліста было скіравана супраць усяе лацінскае Царквы і ўласьціваю мэтаю ліста, якую мелі на ўвеце ягоныя аўтары, было не дапусьціць да супольнае акцыі Папы і імпэратара Канстантына IX супраць нарманаў. Калі аднак пасьля таго патрыярх Керуляры пад уплывам імпэратара крыху зьмяніў свой высокі тон і зьвярнуўся да Папы, дык Папа Леў IX наважыўся выслаць у Канстантынопаль сваіх легатаў на чале з кардыналам Гумбэртам.

Кардынал Гумбэрт быў моваведам і спэцыялістам у грэцкіх справах, аднак не азначаўся патрэбнаю цярпліваcьцю, ані тактам.

Папская дэлегацыя прыехала ў Канстантынопаль вясною 1054 г. і адразу скантактавалася з імпэратарам, які вельмі жадаў дагаварыцца з Рымам да згоды. Але перагаворы былі ня лёгкаю справаю, калі з аднаго боку выступаў папскі легат Гумбэрт, адзінка здольная, але пры тым гвалтоўня і перапоўненая ідэямі велічы Рымскага пасаду, а з другога боку падступны і амбітны патрыярх Керуляры. Калі перагаворы не давалі ніякага выніку, а Керуляры захоўваўся абураюча, у суботу дня 16 ліпеня 1054 г. папскія легаты, увайшоўшы ў сабор сьв. Сафіі на пачатку Службы Божае, палажылі на аўтары папскую бульлю, якою адлучалі ад Царквы патрыярха Міхала Керулярыя. Пасьля гэтага легаты чым хутчэй пакінулі Канстантынопаль, баючыся за сваё жыцьцё ад падбуранага натаўпу. Чатыры дні пасьля гэтага (20 ліпеня) Керуляры адлучыў ад Царквы легатаў. Сучасьнікі не здавалі сабе поўнасьцю справы з усіх цяжкіх наступстваў, якія былі зьвязаны з тым актам — гэта быў акт якім зроблена падзел між Рымскаю і Грэцкаю Царквою.

Сёньня вучоныя стараюцца знайсьці сапраўдных вінаватых дакананае драмы. Няма сумніву, што прычыны гэтае драмы былі шмат глыбейшыя, як нетактоўнасьць кардынала Гумбэрта і гордасьць Керулярыя, аб некаторых з іх успаміналася перш. Але якія-б ня былі тыя прычыны, бульля з адлучэньнем Керулярыя сталася фактам, аднак яшчэ паўстае пытаньне юрыдычнае важнасьці бульлі. Калі яе папскія легаты клалі на аўтар сьв. Сафіі, Папа Лей IX, які выслаў легатаў, ужо ня жыў ад трох месяцаў (ён памёр 19 красавіка). Дык ці маглі папскія легаты выступаць ад імя Папы і ад Рымскае Царквы, калі сам Папа ўжо ня жыў?

Незалежна ад таго, які адказ даюць праўнікі і гісторыкі на пастаўленае пытаньне, не зьмяняецца сумная сапраўднасьць падзелу хрысьціянства.

З нагоды сумных угодкаў падзелу мы можам зрабіць некалькі вартасных высноўкаў. Разьбіцьцё хрысьціянства перш чым сталася дакананым фактам, было падрыхтавана на працягу стагодзьдзяў. Узаемны недавер, палітычныя інтрыгі ў царкоўных справах і асабістыя амбіцыі адыгралі сваю ганебную ролю ў падрыхтоўцы разьбіцьця і ў яго дакананьні. Разьбіцьцё найвыразьней пярэчыць во-

лі Хрыста, каб была адна аўчарня і адзін пастыр і хто толькі пачувае сябе хрысьціянінам мусіць працаваць для ажыцьцяўленьня волі Хрыста. У гэтай працы перадусім трэба старацца сябе ўзаемна **зразумець,** умець шанаваць перакананьні іншых і вяковыя традыцыі.

Сёньня, дзякаваць Богу, адчуваецца ўсюды зразуменьне патрэбы адзінага хрысьціянскага фронту. Да чыста рэлігійных матываў, якія дыктуюць людзям неабходнасьць стараньня аб устаноўленьні адзінства, далучаецца яшчэ і дачасны матыў. Бязбожны камунізм ёсьць ворагам усіх рэлігіяў, але асабліва хрысьціянскіх; было-б шмат лягчэй змагацца з гэтым ворагам, калі-б было адзінства ў духу, праўдзе і на дзеле.

**а. Ч. Сіповіч.**

# Царква—Містычнае Цела Хрыста

Калі-б Хрыстос, зьявіўшыся ў Палестыне, жыў там, навучаў, тварыў цуды і нарэшце памёр на крыжы пакутніцкай сьмерцю, але не пакінуў па Сабе жывое арганізацыі — свае Царквы, дык што-ж-бы асталося ад Яго твораў і Яго навукі?! Ведама, што Хрыстос кнігаў ня пісаў, дык Яго навука асталася-б хіба толькі ў пераказах і няясных лягэндах, а Ягонае дзела збаўленьня людзтва хутка зыйшло-б на нішто; людзі аб Ім забыліся-б. Хіба толькі якія вучоныя ад часу да часу рабілі-б свае досьледы аб Ім. Але не дзеля гэткага хуткапрамінаючага зьяўленьня прыходзіў Хрыстос на зямлю; не дзеля таго, каб засьвяціць як зьнічка і навекі згаснуць, але каб быць Дарогаю, Праўдаю і Жыцьцём для ўсіх народаў, усіх расаў і для кожнага з нас паасобку. Дзеля гэтага Ён заснаваў сваю сьвятую і непамыльную ўстанову, дзе жыве і прабывае Сам заўсёды, як Эўхарыстычны Бог; устанавіў сьвятыя Тайны і даручыў гэта ўсё ерархіі япіскапаў на чале з сваім Намесьнікам.

Гэтаю жывою, сьвятою і непамыльнаю ўстановаю ёсьць Хрыстовая Царква.

Царкву можна разглядаць, як ерархічную арганізацыю грамадзтва, заснаваную Хрыстом дзеля таго, каб далей вяла дзела збаўленьня людзтва. З гэтага гледзішча Царква стаіць перад намі як жывы арганізм. Устанаўленьне Царквы адбывалася паступова. «А вы за каго Мяне ўважаеце»? пытаўся аднойчы Хрыстос сваіх вучняў.«Ты Хрыстос, Сын Бога жывога, адказаў Яму Сымон-Пятро. А Хрыстос яму на гэта кажа: Шчасьлівы ты Сымон, сын Іоны, бо ня цела і кроў аб'явілі табе гэта, але Айцец Мой, Каторы ёсьць у Небе. І Я кажу табе, што ты ёсьць Скала (Пятро) і на гэтай Скале Я збудую Царкву Маю і пякельныя вароты не перамогуць Яе. І дам табе ключы валадарства нябеснага» (Мат. XVI, 15-19). Гэта толькі абяцаньне Пятру, што ён будзе бачнаю галавою Царквы затое, што першы спаміж апосталаў праявіў жывую і глыбокую веру ў Боскасьць Хрыста. Зьдзейсьненьне гэтага абяцаньня адбылося пасьля ўваскрасеньня Хрыста, калі Ён, зьявіўшыся апосталам, пытаўся Пятра, ці ён Яго любіць больш як усе іншыя. І Пятро добра памятаючы, што ня так даўно выракаўся перад архірэйскімі слугамі, што ён вучань Хрыста, цяпер праз сьлёзы паўтараў: «Госпадзе, Ты ўсё ведаеш, Ты ведаеш, што я люблю Цябе». І Хрыстос тройчы казаў да яго: «Пасі ягняты мае!», «Пасі авечкі мае!» Ды зноў: «Пасі авечкі мае!» (Іван XXI, 15-17). Тады і ўчыніў Хрыстос аканчальна Пятра бачнай галавою Свае Царквы.

Калі Хрыстос жыў на зямлі дык Сам быў галавою Царквы бачнай і нябачнай. Але ад часу, калі Ён узьнёсься на неба на ўлоньне Свайго Айца, а на зямлі прабывае толькі ў сьвятой Эўхарыстыі дык Ягоным намесьнікам, бачнаю галавою Царквы, зьяўляецца кожначасны наступнік апостала Пятра. Ведама, што Хрыстос, будучы на зямлі, меў поўную ўладу і непамыльнсьць. Ён казаў аб сабе: «Я дарога, праўда і жыцьцё» (Іван XIV, 6). А на іншым мейсцы: «Я сьвятло сьвету, хто йдзе за Мною, той ня ходзіць у цемры, але будзе мець сьвятло жыцьця вечнага» (Іван VIII, 12). Пасьля ўзьнясеньня на неба, Хрыстос як адвечная Праўда прабывае ў лоне Свайго Айца, але абвешчаная Ім праўда знайходзіцца ў Царкве, і яна мае ад Хрыста ўсё неабходнае дзеля таго, каб весьці ўсіх людзей да вечнага жыцьця ў небе. Паўнату свае ўлады Хрыстос перадаў Царкве перад самым сваім узьнясеньнем. Зьявіўшыся апосталам праз зачыненыя дзьверы Ён казаў: «Як Айцец Мой паслаў Мяне, так і Я пасылаю вас. Сказаўшы гэта, дзьмухнуў і кажа: Прыймеце Духа Сьвятога» (Іван XX, 21-22). Гэта было завяршэньнем яшчэ перш даручанага пасланьніцтва і зьвязанага з ім аўтарытэту: «Хто вас слухае, той Мяне слухае, а хто вамі пагарджае, той Мною пагарджае; хто пагарджае Мною, той пагарджае Тым, Хто паслаў Мяне» (Лук. X, 16). Адгэтуль ясна відаць, што Хрыстос перадаў Сваёй Царкве Сваю навуку, якую Ён Сам атрымаў ад Свайго Айца, і што гэтую навуку Царква будзе пашыраць між народамі ў імені Хрыста; хто паслухае яе, той паслухае Самога Хрыста і Яго Айца; і наадварот, той хто ня прыйме яе ад Царквы, тэтым самым пагардзіць Хрыстом і пагардзіць Нябесным Айцом.

Царква мае велічную, небасяжную мэту, але сама яна складаецца з звычайных, сьмяротных і слабых людзей, дык як-жа гэтыя людзі могуць забясьпечыць непамыльнае асягненьне так высо-

кае і так важнае мэты? Дзеля гэтага Хрыстос даў Царкве неабходныя да гэтага ласкі, а сваім намесьнікам даў дар непамыльнасьці ў справах сьвятое веры і маральнасьці; карыстаюць яны з гэтае ўлады тады, калі абвяшчаюць нейкую праўду веры ex cathedra.

Япіскапы на чале з Рымскім Першаархірэям, а з імі ўсе сьвятары, што знайходзяцца ў лучнасьці з Апостальскім Пасадам, твораць царкоўную ерархію, без якое Царква ня можа існаваць. І там, дзе няма гэтае ерархіі, там наступае аслабленьне сьвятое веры, заніканьне сьвятых Тайнаў, упадак маралі. Гэта ясна выяўляецца ў пратэстантызьме, асабліва ў ягоных шматлікіх сэктах, дзе ўжо часта нават ня вераць у Боскасьць Хрыста і тлумачаць Сьвятое Пісаньне кожны на свой лад — сёньня так, а заўтра іначай, у выніку чаго зьяўляецца поўны хаос у маральным і духовым жыцьці. Праўда, ёсьць пабожныя людзі і ў пратэстантызьме, але гэта ня ў сілу самога пратэстантызму, а ў сілу дараў Сьвятога Духа, даных высокародным душам дзеля іхняе добрае волі і шчырага жаданьня належаць да сапраўднае Хрыстовае Царквы, праз гэта яны начынаюць належаць да душы сапраўднае Хрыстовае Царквы. Але звычайны шлях асьвячаньня і збаўленьня, гэта прыналежнасьць да бачнае Хрыстовае Царквы і належны ўдзел у Таёмствах Хрыстовых ды ўпарадкаваньне свайго жыцьця паводля навукі Хрыста згодна з тлумачэньнем Царквы, а так-жа ўдзельнічаньне ў багаслужэньнях, асабліва ў Найсьвяцейшай Эўхарыстычнай ахвяры, што ёсьць цэнтрам надпрыроднага жыцьця чалавека.

Па-за бачнай Царквою ёсьць нябачная Царква: гэта Містычнае Цела Хрыста, дзе Сам Хрыстос ёсьць нябачнай Галавою ўсіх, што жывуць з Ім, у Ім і для Яго. Тут кожная справядлівая душа ёсьць членам тэтага Цела. І нават тыя справядлівыя, якія не належаць да бачнае Царквы, але не па сваёй віне знайходзяцца ў стане незнаньня дзе ёсьць сапраўдная Царква, яны таксама належаць да Містычнага Цела Хрыста. Думку аб Містычным Хрыстовым Целе вельмі ясна выказаў апостал Павал. Гляньма, як прыгожа ён апісвае яго, прыраўноўваючы да лучнасьці, якая ёсьць ў чалавечым арганізьме між галавою і членамі. «Як у адным целе маем шмат членаў, але ня ўсе члены маюць тую-ж работу, так мноства нас творым адно цела ў Хрысце» (Рым. XII, 4-5). «Бо як адно цела, а мае многія члены, і ўсе члены аднаго цела, хоць іх і многа, твораць адно цела, так і Хрыстос» (І. Кар. XII, 12). «Усё пакарыў (Айцец) пад ногі Яго, і даў Яго за галаву над усім у Царкве, каторая ёсьць Яго Цела, і паўната Яго, якая напаўняе ўсё ўва ўсім» (Эфэз. I, 22-23).

Значыць Царква творыць з Хрыстом адну сутнасьць. Таму і кажа сьв. Аўгустын, што Хрыста без Царквы ня можна поўнасьцю зразумець: Яны неразлучныя, як неразлучныя людзкое цела і галава. Хрыстос і Яго Царква твораць адну суцэльнасьць — цэлага Хрыста.

У такой будове Царквы ёсьць бязьмежная любоў Хрыста да ўсіх людзей агулам і да кожнага з нас паасобку, бо Хрыстос прыйшоў на зямлю збавіць усіх і ўчыніць праз Царкву Сваім Містычным Целам. «Хрыстос так палюбіў Царкву, што і Сябе аддаў за Яе» (Эфэз. V, 25). У выніку гэтага: «Мы члены Яго Цела, ад Цела Яго і ад Касьцей Яго» (Эфэз. V, 30). Вось якая шчыльная лучнасьць паміж Царквою і Хрыстом, паміж намі і Ім. Таму чыніць напасьць на Царкву, гэта ўсё роўна, што нападаць на Хрыста. Прасьледаваць Царкву, гэта роўназначна, што прасьледаваць Самога Хрыста! Гэта ясна бачым з прыкладу Саула, будучага апостала Паула. Ён не прасьледаваў Хрыста, а толькі хрысьціян, аднак калі ў дарозе да Дамаску, куды накіроўваўся Саўло, каб забіваць хрысьціян, зьявіўся яму Хрыстос, дык зьвярнуўся да яго такімі словамі: «Саўло, Саўло, чаму прасьледуеш Мяне? Ён адказаў: Хто-ж Ты, Госпадзе? А Ён у адказ: Я Ісус, Каторага ты прасьледуеш!» (Дзеян. Ап. IX, 4-5). Як бачым, Хрыстос ня кажа «Я ёсьць Хрыстос, Каторага вучняў ты прасьледуеш», а проста «Я Ісус, Каторага ты прасьледуеш».

Нават найменшы вернік належыць да Містычнага Цела Хрыста.Дзеля гэтага,калі мы яго прасьледуем, крыўдзім, пазбаўляем яго і яго сям'ю сродкаў да жыцьця — тым самым прасьледуем і крыўдзім Самога Хрыста. Калі-б людзі ўсьведамілі як сьлед гэтую праўду, на колькі тады было-б лягчэй разьвязаць сацыяльныя пытаньні. Бо-ж кожная крыўда ўчыненая іншаму,адбіваецца нейкім чынам на ўсіх, як на членах аднаго цела і нават на самым крыўдзіцелю, бо-ж і ён належыць да таго-ж містычнага Цела Хрыста.

Усё чалавецтва — гэта Містычнае Цела Хрыста, калі ня дзейным чынам праз жывую і глыбокую веру, праз непахісную надзею і праз дзейную хрысьціянскую любоў, дык прынамся патэнцыяльным спосабам у тым значэньні, што кожны чалавек, пакуль ён жыве, можа атрымаць ласку Божую, каючыся за свае грахі і зьвяртаючыся да Хрыста, просячы ў Яго прабачэньня і памілаваньня.Абавязкам кожнага верніка ёсьць стацца актыўным членам Хрыстовага Цела і збольшыць сваю любоў да Хрыста.

**а. Я. Тарасэвіч.**

# Справа беларускае каталіцкае ерархіі ў Менску ў 1924 г.

У часапісе «Дакуманты і факты» Нр. 1. з 1952 г. ёсьць кароткая зацемка Спэктатара «Справа ўтварэньня Беларускае Каталіцкае Царквы ў Б.С.С.Р.», у якой гаворыцца: «У 1924 г. з групы «Дзяньніца», якая стаяла ў тым часе на чале ўраду і Камуністычнае партыі ў БССР, паўстала думка ўтварэньня на тэрыторыі Савецкае Беларусі Беларускае духоўнае каталіцкае ўлады... Пры помачы гэтай групы пачаліся шуканьні адпаведнага кандыдата... Заходняя Беларуская група грамадаўцаў запрапанавала кандыдатуру кс. Адама Станкевіча... Кс. Адам Станкевіч пагадзіўся з прапановай тым-больш, што і сам быў падзяляў часткова ў той час пагляды грамадаўцаў на магчымасьць будовы Беларускага Нацыянальнага Дому ў БССР. Дзеля гэтага кс. Станкевіч паразумеваецца ў гэтай справе з Першаерархам Украінскае Каталіцкае Царквы (грэка-каталіцкае) мітр. Шэптыцкім, які даведаўшыся, што праект гэты высунуты галавой ураду БССР А. Чарвяковым і праф. Ігнатоўскім і іншымі, якія зьяўляюцца, ня гледзячы на афіцыяльны камуністычны шыльд — беларускімі патрыётамі — падтрымаў думку кс. Станкевіча выезду ў БССР і абняцьця там кіравецтва Каталіцкаю Царквою і ператварэньня яе ў беларускую з польскай, як было дагэтуль. Аднак пастанова выезду адцягвалася нэгатыўным становішчам Рыму ў гэтай справе, які не хацеў, дазволам гэтага кроку, проціставіць сабе Польшчу. Быў мамэнт, што кс. Станкевіч амаль што ня выехаў у БССР на сваю руку без дазволу Сьвяцейшай Сталіцы...»

Колькі ёсьць праўды ў гэтым сьведчаньні Спэктатара? Падзеі аб якіх ён піша маюць вялікае значэньне для нашае гісторыі агулам і рэлігійнае ў асаблівасьці але на вялікі жаль аўтар не падаў крыніцаў, адкуль ён чэрпаў свае інфармацыі і ўжо гэтым самым зьнізіў сваё сьведчаньне да тых вестак, аб якіх кажуць: «так мне людзі гаварылі». Тымчасам падзеі, аб якіх піша Спэктатар ня так даўныя і ёсьць магчымасьць іх спраўдзіць. У сьвятле дакумантаў выяўляецца, што сьведчаньне Спэктатара мае толькі зерне праўды з паважным дадаткам фантазіі. На шчасьце захавалася дакладнае сьведчаньне самога кс. Адама Станкевіча адносна гэтае справы ў кнізе: «Беларускі Хрысьціянскі рух». Вільня 1938 г. Там у разьдзеле VII, § 6 «Занік Б.Х.Д. у Менску і бальшавіцкія пляны аб беларускім каталіцкім біскупе» дасло́ўна гаворыцца:

«Пасьля таго, як у Менску ўцьвярдзіліся бальшавікі ўсякая дзейнасьць БХД (Беларускае Хрысьціянскае Дэмакратычнае Злучнасьці), якая перад тым так буйна там разьвівалася, была спынена. Аднак асталася там жменя людзей, дзейных сяброў БХД, якія ня трацілі надзеі на тое, што рэвалюцыйны віхор пераміне, жыцьцё ўложыцца ў праўныя рамкі і будзе магчымая хоць сякая-такая праца нават і для БХД. Такую надзею сапраўды можна было мець, бо бальшавікі ў першых гадох свайго рэжыму давалі магчымасьць працы на ніве беларускай культуры, а нават быццам шукалі спосабу разьвязаньня праблемы рэлігійнай. Магчымасьць культурнай працы ў БССР сьцягвала, як ведама, туды беларускую інтэлігэнцыю з эміграцыі, а так-жа і з Польскай Рэчыпаспалітай, дзе для яе ня было працы. У беларускім грамадзянстве ёсьць думка, што гэткая бальшавіцкая палітыка ня была шчырай, што была гэта звычайная прыманка, каб прыбраць да рук усю беларускую народную інтэлігэнцыю і такім ці іншым спосабам зьнішчыць яе. Вось-жа сабраную да сябе беларускую інтэлігэнцыю бальшавікі прыблізна ад 1926 г. аж да сяньня сапраўды нішчаць, ці аднак дзеля гэтага яе зьбіралі — судзіць так ня маем ніякіх дадзеных. Палёгкі для беларускай культуры ў першых гадох бальшавіцкага рэжыму можа зьяўляюцца звычайным прыпадкам, а можа і сапраўды сьведамай прыманкай для Беларусаў з боку маскоўскай палітыкі.

У кожным выпадку ў сваім часе бальшавіцкая палітыка, даючая Беларусам жыць і працаваць у БССР, сапраўды існавала, была плоднай ў сваіх выніках і сягала так-жа да беларускай інтэлігэнцыі рэлігійнай. Пазваляю сабе тут прытачыць ліст з Менску з 29-IV-1924 г. даўнейшай дзейнай сяброўкі БХС на менскім грунце да аднаго каталіцкага ксяндза Беларуса ў Польшчы. Дзеля ведамых прычын прозьвішча ані тэй сяброўкі БХД, ані ксяндза назваць тут не магу. Вось дасло́ўны зьмест таго пісьма: «...Вельмі Паважаны Ксёндз! Пішу я не ад сябе да Ксяндза, але ад імені каталікоў Беларусаў, каторыя чуючы недахват духавенства, прасілі мяне зьвярнуцца да нашай улады (да бальшавіцкай — увага Ад. Ст.) з просьбай, ці не дазволіла-б нам запрасіць ксяндзоў з заграніцы. Дзеля гэтай прычыны я гаварыла з некаторымі прадстаўнікамі вышэйшай улады, ці не пазволілі-б прыехаць з заграніцы ксяндзом Беларусам. як напрыклад кс. Н. і т. д. Мне адказалі вельмі прыхільна і даручылі напісаць да кс. Н. наступнае; што савецкая ўлада згодзіцца на прыезд каталіцкіх беларускіх ксяндзоў пад трымя ўмовамі: 1) каб духавенства каталіцкае паводля мажлівасьці ўводзіла беларускую мову ўзамен польскай пры дадатковых набажэнствах; 2) каб духавенства не вяло агітацыі проці савецкай улады і 3) каб залежнасьць духавенства была ад біскупа, каторы павінен жыць на Беларусі і быць залежным у сваіх духоўных справах толькі ад Рыму. Ёсьць ведама, што біскупа назначае Рым, але мы будзем прасіць Беларуса і для нас вельмі пажа-

дана мецъ біскупам Паважанага кс. Н. Аб гэтым мы хацелі пісаць да Рыму, але мо' лепей будзе атрымаць адказ ад кс. Н., ці згодзіцца к нам прыехаць, а калі не, то чаму? Мо' треба прыняць якія крокі ў адносінах да Рыму...» (Тут ёсьць зацемка Ад. Ст., што ліст узяты з уласнага архіву).

Ліст гэты дужа вымоўны і лішніх тлумачэньняў не патрабуе. Што ён не якая выдумка асобы яго пісаўшай, і што бальшавікі — шчыра ці ня шчыра ня недаем — сапраўды рабілі захады аб беларускім каталіцкім біскупстве ў Менску, відаць так-жа яшчэ з наступнага факту. У 1925 ці 1926 г. — дакладна ня помню — зварочваўся да мяне адзін паважны Беларус з прапазыцыяй згадзіцца ... быць біскупам у Менску! На мае запытаньні, што гэта ўсё знача, чалавек той сказаў мне аб гэтым больш менш тое самае, што гэта асоба напісла ў пісьме. Тады я гэнаму чалавеку абʼясьніў, што каталіцкім біскупам можа быць толькі той, каго назнача папеж і што няхай Масква зробіць у гэтым кірунку патрэбныя дзеля гэтага захады. Больш з тым чалавекам аб гэтай справе я не гаварыў. Ці гэта значыла біскупскай мітрай з ласкі бальшавікоў прыгарнуць мяне да іх і зрабіць з мяне «чырвонага біскупа», ці пад гэтыя абяцанкі заахвоціць да пераезду ў Менск беларускіх ксяндзоў народнікаў, каб пасьля іх зьнішчыць, як інтэлігенцыю савецкую, ці проста была гэта проба ўладзіць у БССР рэлігійнае жыцьцё, што найменш праўдападобна — згадаць не бяруся.

У кожным разе, цьвярджу ўрэшце, што справа беларускага каталіцкага біскупа ў Менску была абгаворвана шырака, калі адзін радыкальны, тады саветафільскі беларускі дзеяч — дзеля ведамых прычын назваць яго не магу — уважаў — на што маю пісьменны дакумэнт — што віна за недайшоўшае да пазытыўнага выніку беларускае біскупства ў Менску ляжыць на мне.

Словам гэтай няяснай дагэтуль справе з біскупствам ў Менску, гэта апошні адгалосак дзейнасьці БХД у Менску і час аканчальнага яе заняпадку пад прэсіяй і пресьледам бальшавіцкага рэжыму».

Толькі кажа кс. Адам Станкевіч. Сёньня з невялікае гістрычнае пэрспэктывы і з таго, што дзеецца ў краінах так званых «народных дэмакратыяў» адносна Каталіцкае Царквы, ня можа быць ніякіх сумніваў, што гутаркі бальшавіцкіх кіраўнікоў, быццам яны дазволілі-б пад тымі трымя ўмовамі працаваць у БССР беларускім каталіцкім сьвятаром, прыехаўшым з-за граніцы, ня маюць ніякае шчырасьці і былі прызначаны выключна для прапаганды. Падобная прапанова з вуснаў тапачасных беларускіх камуністаў магла некаторым выдавацца шчырай, але такою нанапэўна ня была, бо-ж у БССР было нямала беларускіх каталіцкіх сьвятароў і ўсіх іх бяз вынятку ГПУ зьнішчыла, дык не для іншае мэты яны шукалі беларускіх сьвятароў у іншых краінах. Зрэштаю далучыўшы Зах. Беларусь да БССР бальшавікі пацьвердзілі бяз ніякіх двузначнасьця ў свае пляны адносна беларускага каталіцкага духавенства—тады, праўда, бальшавікі вельмі заўзята вышуквалі беларускае каталіцкае духавенства, але толькі дзеля таго, каб яго зьнішчыць. У ліку ахвяраў знайшоўся і сам кс. Адам Станкевіч Цьверджаньне Спэктатара, што кс. Станкевіч гатоў быў 1925 г. выехаць у БССР на сваю руку без дазволу Апостальскага Пасаду, а так-жа цьверджаньне, што думка аб беларускім каталіцкім біскупе ў БССР паўстала ў групе «Дзяньніцы», як бычым з сьведчаньня кс. Станкевіча,не адказваюць праўдзе.

# Пад знакам „рускае і польскае веры“

(Працяг 2-і)

## ПАД УЛАДАЮ РАСЕЙСКАЕ ІМПЭРЫІ

Падзел Рэчыпаспалітае і прылучэньне Беларусі да Расеі яшчэ больш узмоцніла палянізацыю ў лоне Каталіцкае Царквы, на Беларусі бо ў змаганьні за сваю незалежнасьць, польскае духавенства ўзлажыла асабліва важную ролю на Каталіцкую Царкву ўва ўсіх акупацыйных зонах. У тым часе канчаткова дайшло да таго, што вельмі трапна выказаў польскі журналіст Зьдіслаў Дэмбіцкі ў 1944 г. ў сваім артыкуле аб «польскай народнай веры», што «ня Польшча сталася каталіцкаю, але каталіцызм стаўся польскім». Яшчэ больш як у самай Польшчы такі нацыяналістычны дух укараняла польскае духавенства на Беларусі (52). Так стварылася «польская вера», якая цьвярдзіла, што «кожны паляк — каталік, а кожны каталік — паляк».

Нацыяналістычны настрой польскага духавенства на ня-польскіх абшарах прымаў такія дзівосныя формы, што на яго зьвернена ўвагу нават у Зах. Эўропе. У 1908 г. на гэтую тэму была разгарнулася жывая дыскусія. Запачаткаваў яе а. Пальміеpi, даказваючы, што польскае духавенства ў сваёй дзейнасьці кіруецца перадусім палітычнымі намерамі, уважаючы «каталіцызм за прыладу па-

52. **Nagrodzki Zygmunt. Rola duchowieństwa katolickiego w godzinach prób i cierpień na terenie Litwy i Białej Rusi 1863-1883. Wilno 1935.**

лянізацыі» (53). На такі закід палякі зарэагавалі вельмі жыва. У газэтах, часапісах і брашурах зьявіліся адказы (54), на якія ў сваю чаргу адказаў а. Пальміеры (55). Хоць дыскусія да ніякіх канкрэтных вынікаў не давяла і нават ня выявіла да канца закраненага пытаньня, але прынамся хоць часткава паказала ўсяму сьвету палітыканства польскага духавенства на няпольскіх абшарах.

Праўда паняволеньне Польшчы давала польскаму духавенству шмат апраўдваючых аргумэнтаў іхняе якраз такое, а ня іншае рэлігійнае палітыкі, бо-ж для іх Каталіцкая Царква была найбольш магутным бастыёнам у змаганьні за незалежнасьць, у якім маглі спалучыцца ўсе і партыйныя і беспартыйныя дзеячы, незалежна ад сваіх супярэчных поглядаў. Але вяршком недарэчнасьці ў паводзінах польскіх сьвятароў было тое, што змагаючыся за сваю незалежнасьць, яны стараліся здушыць усе праявы беларускага вызвольнага руху; яны нават і думкі не дапускалі, каб на Беларусі зьяўрацца да беларускіх вернікаў пабеларуску (56). Нічога дзіўнага, што такая крывадушнасьць, якая Каталіцкую Царкву хацела мець за абаронцу перад дэнацыяналізацыяй польскага народу і адначасна тую-ж Царкву выкарыстоўвала на Беларусі для дэнацыяналізацыі беларусаў, мусіла выклікаць з боку беларусаў зусім апраўданую няпрыхільнасьць да польскіх сьвятароў.

Каб ня мець лішніх перашкодаў у сваёй палянізацыйнай дзейнасьці на Беларусі, польскае духавенства старалася ўсімі спосабамі перашкодзіць даплыву хоць крыху сьведамае беларускае моладзі ў духоўныя сэмінарыі. Аднак не зважаючы на розныя перашкоды рады беларускага каталіцкага духавенства лацінскага абраду перад 1917 г. хоць паволі, алё ўсё-ж узрасталі, бо беларускі адраджэнскі рух пранікаў і ў духоўныя ўстановы і там шырыў ўсьведамленьне між спалянізаваных беларусаў. Нават у такой установе, як Віленская Каталіцкая Духоўная Сэмінарыя ў 1911 г. рэктар афіцыяльна прызнаў існаваньне беларускага гуртка і дазволіў яму мець беларускую бібліятэчку (57). У Каталіцкай Духоўнай Акадэміі ў Пецярбурзе гэткі-ж гурток паўстаў у 1912 г. а ў 1914 г. налічваў 70 сябраў і меў вялікую беларускую бібліятэку ды разьвіваў жывую дзейнасьць дзякуючы паважнай падтрымцы праф. Браніслава Эпімаха-Шыпіллы (58).

Выкарыстоўваючы некаторыя магчымасьці талеранцыйнага ўказу з 1905 г. беларускае каталіцкае жыцьцё пачало разьвівацца штораз больш, паўстала Беларускае Выдавецтва, зьявіліся беларускія каталіцкія кнігі, часапісы і газэта.

## У АГНІ РЭВАЛЮЦЫІ.

Кастрычніцкая рэвалюцыя 1917 г. не зважаючы на сваю руйнацкую дзейнасьць, ня спыніла адразу разьвіцьця беларускага каталіцкага руху. Наадварот, на каторкі час ён быў яшчэ ўзмоцніўся. Віленскі біскуп Я. Э. дэ Ропп вярнуўся з выгнаньня і быў назначаны Магілёўскім мітрапалітам. Бульля аб яго намінацыі была прачытана падчас інтронізацыі ў Пецярбурзе так-жа і пабеларуску — гэта было вымоўнае новаўвядзеньне. У сваім першым пастырскім лісьце да духавенства мітрапаліт гаварыў аб патрэбе ўжываньня беларускае мовы ў сьвятынях і сам, хоць быў ужо ў пажылых гадох, пачаў вучыць беларускую мову. Да гэтага часу, не зважаючы на дазвол папы Льва XIII з 8.V.1897 г. Нр. 37522 для Магілёўскага мітрапаліта ўжываць беларускую мову ў тых мяйсцовасьцях, дзе народ карыстацца беларускаю моваю (ubi dialectus alborussica a populo adhibetur) (59) яе ў казаньнях амаль ня ўжывалі, або ўжывалі толькі «пад страхам свайго бліжэйшага начальства» (60). Цяпер-жа Я. Э. дэ Ропп афіцыяльна дазваляе беларускія казаньні і катэхізацыю, а нават заахвочвае да гэтага духавенства. Лік парахвіяў з беларускімі казаньнямі пачаў узрастаць з дня на дзень.

У тым-жа 1917 г. была адноўлена Менская дыяцэзія і ў 1918 г. у Менску адчынена Каталіцкую Духоўную Сэмінарыю з а. Фабіянам Абрантовічам на чале. Не зважаючы на бальшавіцкі тэрор, беларуская прэса пісала ў 1919 г. аб Менскай Сэмінарыі: «Дужа цікавы і шмат значны праяў у жыцьці Беларускага народу — гэта клерыкі-Беларусы. У тутэйшай Каталіцкай Сэмінарыі ўсіх 29 клерыкаў; з гэтых 25 асоб беларусаў. Знача творацца цэлыя кадры, цэлыя палкі беларускага маладога духавенства, якое — цэлай моцай выступае ў абароне свайго пакрыўджанага народу» (61). Тады-ж а. Абрантовіч стараўся заснаваць у Мен-

53. P. Palmieri. La Chiesa Russa. Firenze 1907, Tom. I. star. 725.

54. Czuzoff V. La conversion de la Russie et le clergé polonais. («Revue catholique des Eglises») Paris 1908. T. V. star. 449-964; P. A. Mohl S, J,, Polacy przeszkoda do unii Wschodu z Zachodem? Odpowiedź autorowi dzieła «La Chiesa Russa». Kraków 1908. Zjavilisia tak-za artykuły u casapisie «Przeglad polski», u hazecie «Czas» i ins.

55. P. Palmieri. A propos de «La conversion de la Russie et le clergé polonais». («Revue catholique des Eglises»). Paris 1908. T. V. star, 553-564, A tak-za u hazecie «Czas».

56. А. Навіна. На дарозе да новага жыцьця. «Маладая Беларусь». Сшытак I. Пецярбург 1912 г. стар. 27.

57. Ks. Adam Stankevic. Biełaruski Chryscijanski Ruch. Vilnia 1938. Cytuju pavodla «Chryšcijanskaje Dumki». Vilnia 1938 Nr. 11(159) i dal.

58. Кс. Ад. Станкевіч. Прафэсар Браніслаў Эпімах-Шыпілла. Вільня 1935.

59. Е. Карский. Белоруссы. Том. III. ч. 3. Петроград 1922. стар. 167.

60. А. Навіна. op. cit. стар. 27.

61. «Kryniса» Nr. 12. Miensk 1919. Karespandencyja «Z Miensku». Pavodla «Chryšcijanskaja Dumka». Nr. 16(164) Vilnia 1. VI. 1938. star, 6,

скy Беларускую Каталіцкую Акадэмію, але ня змог гэтага стараньня давесьці да канца пад націскам далейшых падзеяў.

Пад кіраўніцтвам беларускага каталіцкага духавенства пачала шырока разгортваць сваю дзейнасьць Беларуская Хрысьціянская Дэмакратычная Злучнасьць, закладаючы беларускія школы, прытулкі і каапэратывы. Для ўзмацненьня сваіх радоў і для актывізацыі беларускага рэлігійнага жыцьця беларускае каталіцкае духавенства мела свае зьезды 1917 г. у Менску, 1918 г. у Баранавічах і 1921 г. у Вільні. Рады беларускага каталіцкага духавенства хутка збольшваліся. Нажаль гэта трывала вельмі коратка.

Рыскім мірным дагаворам у 1921 г. Беларусь была падзелена між Савецкім Саюзам і Польшчаю. Ад таго часу прасьледаваньне рэлігіі агулам і каталіцызму ў асаблівасьці ў Савецкім Саюзе прыняло вельмі вострую форму. Дакладней аб гэтым пісалася ў артыкуле «Старонкі з крыжовае дарогі Каталіцкае Царквы на Беларусі». Цяпер-жа прыглянемся да тых падзеяў, якія адбываліся ў Заходняй Беларусі.

## ПАД ПОЛЬСКАЮ АКУПАЦЫЯЙ.

На першы пагляд магло-б здавацца, што ў Заходняй Беларусі пад польскай акупацыяй беларускае каталіцкае жыцьцё павінна было квітнець, але ў сапраўднасьці і тут каталіцызм як такі прасьледаваўся з нямешаю зацятасьцю, хоць ня так крывава, як у Савецкім Саюзе, а дазваляўся каталіцызм толькі ў адной форме «польскае веры».

Пакуль у Вільні быў біскупам Я. Э. Юры Матулевіч (1918-1925), а ў Пінску Я. Э. Жыгімонт Лазінскі (1919-1925 як біскуп Менскі, а 1925-1933 як біскуп Пінскі), дык супрацьбеларускія выступы польскага духавенства мелі пераважна прыватны характар. Праўда гэтых выступаў было шмат і да таго яны часта йшлі ў пары з падобнымі выступамі польскіх урадовых прадстаўнікоў, але афіцыяльна яны ўсё-ж маглі расцэньвацца, як шавіністычныя выступы адзінак на іхнюю асабістую адказнасьць. Характэрна аднак тое, што польская грамадзкая апінія такія выступы падтрымоўвала. Нават у 1917 г. калі беларуская прэса паведаміла, што ў Вільні паўстаў «Арганізацыйны Камітэт дзеля сазыву Беларускае Канфэрэнцыі ў Вільні» і што ў яго склад увайшлі ксяндзы беларусы Ул. Талочка і Янка Семашкевіч, дык паляк кс. Вітаўт Шылкевіч прыслаў кс. Талочку ліст з пагрозаю, што ён ня міне «заслужанае кары». На гэта кс. Талочка даў належны адказ і раіў «вылечыцца ад нацыяналістычнага чаду». Відавочна адказ трапіў у самае чулае мейсца польскага шавінізму, бо выклікаў шмат гоману і быў часткова апублікаваны ў «Gazecie Warszawskiej» (62).

62. Ks. Ad. Stankievic. Biełaruski Chryścijanski Ruch. Vilnia 1938.

Бязумоўна, што шавіністычна настроеныя адзінкі, якія займалі высокія адказныя становішчы, выкарыстоўвалі афіцыяльна гэтыя становішчы, каб нішчыць беларускае каталіцкае жыцьцё. Калі ў 1918 г. віленскія беларусы запраектавалі выданьне беларускага каталіцкага часапісу «Сейбіт», дык пралат кс. Ян Ганусэвіч ад імя Віленскае біскупскае курыі 23. IX. 1918 г. лістам Нр. 1440 афіцыяльна забараніў кс. Ул. Талочку супрацоўнічаць у тым часапісе (63).

Падобныя выступленьні польскіх нацыяналістаў супраць беларускага каталіцкага жыцьця можна лічыць толькі дробнымі выпадкамі. Уласьцівы наступ распачаўся ад таго часу, як польская ўлада пачала замацоўвацца на беларускіх землях. Ад тады супрацьбеларускі наступ на мяйсцох суправаджаецца самаю бессаромнаю кампаніяю ачорніваньня і нават даносамі ў Рым. Гэткі данос быў высланы у 1921; у ім абвінавачвалася Я. Э. Матулевіча за тое, што не забараняе выданьня ў Вільні беларускае каталіцкае газэты «Kryniсa», бо яна маўляў: «супярэчыць з каталіцкай этыкай... недапушчальным спосабам крытыкуе касьцельныя ўлады... узбуджае нянавісьць да польскага народу і дзяржавы... узбуджае клясавы антаганізм... і выразна сымпатызуе бальшавіком» (64). Так ачорнівалася газэта, якая будзіла нацыянальную сьведамасьць між беларусаў каталікоў і садзейнічала ажыўленьню каталіцкага жыцьця.

Наагул найбольш востры наступ на беларускае каталіцкае жыцьцё йшоў з Віленскае капітулы, дзе ад даўна знайходзіліся такія канонікі, якія нават адмаўляліся даваць разграшэньне тым пакутнікам, якія спавядаліся пабеларуску. Больш таго, некаторыя з іх карысталіся ў дачыненьні да беларусаў самым непераборлівым тэрорам. Напрыклад канонік кс. Станіслаў Мацеевіч, візытуючы беларускую сярэднюю школу ў Барунах, пагражаў вучням: «Кулька ў лоб кожнаму, хто будзе чытаць беларускія кніжкі» (65). Аб гэтым «духоўным» адзін з левых часапісаў пісаў у форме пародыі акафісту: «Радуйся ксяндзоў Мацеевічаў прамоўкі, з беларусаў у палякаў перахварбоўкі, вераю сьвятой ганебныя гандлёўкі — радуйся!» (66).

Найбольш вострыя атакі былі скіраваны супраць катыўнейшага беларускага сьвятарства, каб стэрарызаваўшы іх, тым лягчэй узьдзейнічаць агулам на беларускае сьвятарства. Дня 26. VI. 1921 г. у Барунах арыштавана кс. Міхала Пятроўскага і пасаджана ў Лукіскую турму, а ў 1922 г. быў наложаны хатні арышт на кс. Казімера Стэповіча.

Бараніцца супраць наступу духоўнае і сьвец-

63. Ks. Ad. Stankevic. Op, cit,
64. Ks. Ad. Stankevic. Op, cit,
65. «Крывіч» Нр. 9. Коўня 1925. стар. 97.
66. «Селянская Доля» Нр. I. чэрвень 1921. стар. 22.

кае польскае ўлады было вельмі цяжка. Дзейны супраціў магла-б зрабіць адпаведная беларуская духоўная ўлада, але яе ня было. Дзеля гэтага з ініцыятывы Беларускае Хрысьціянскае Дэмакратычнае Злучнасьці быў паданы ў 1921 г. Апостальскаму Нунцыю мэмарыял ад усіх беларускіх грамадзкіх установаў у Вільні з дамаганьнем біскупа-суфрагана, беларускае мовы ў Духоўнай Сэмінарыі і інш. Зразумела, што палякі зрабілі ўсё, што было ў іх сілах, каб нічога з дамаганьняў беларусы не атрымалі, але на некаторы час былі спыніліся скандальныя супрацьбеларускія выступы польскіх духоўных уладаў. Да таго пачалася падрыхтоўка перагавораў у справе канкардату між Польшчаю і Ватыканам. Самыя перагаворы трывалі нядоўга і вяліся так, каб ані беларусы, ані украінцы ня мелі на іх ніякага ўплыву.

Польскі ўрад, выкарыстоўваючы сваю рэкляму «перадмуру хрысьціянства» і «абаронцы каталіцызму» здолеў лёгка вытаргаваць ад Апостальскага Пасаду паважныя ўступкі адносна мовы казаньняў, катэхізацыі і інш. з некарысьцю для няпольскага насельніцтва (67). Канкардат быў падпісаны 10. 2. 1925 г. Ня дзіва, што польскія асягненьні выклікалі незадаволеньне ў беларускіх, украінскіх і летувіскіх кругох. Калі Варшаўскі сойм рыхтаваўся да прыняцьця канкардату 23 красавіка, дык кс. Адам Станкевіч, які тады быў паслом, выехаў з Варшавы, каб ня ўдзельнічаць на тым паседжаньні сойму. Хтосьці аб гэтым данёс нунцыю Я. Э. Ляўраму, які выклікаў да сябе кс. Станкевіча і рабіў яму за гэта дакоры, але ў адказ пачуў яшчэ больш дакораў за папушчэньне ў крыўду беларускага рэлігійнага жыцьця (68). У сваю чаргу прэм'ер ураду БНР В. Ластоўскі выслаў мэмарандум-пратэст у Ватыкан (69). Нажаль ўрад БНР ня меў ніколі дыплёматычных зносінаў з Ватыканам і абаснаваная аргумэнтацыя мэмарандуму асталася без адказу. Наагул польскія дыплёматычныя асягненьні ня былі з роду тых якія маглі паглыбіць рэлігійнае жыцьцё на Беларусі.

Згодна з Канкардатам Віленская каталіцкая дыяцэзія была паднесеная да годнасьці мітраполіі, але перад тым пад націскам польскіх інтрыгаў і няспынных атакаў мусіў зрачыся Віленскага пасаду Я. Э. Юры Матулевіч і мітрапалітам быў назначаны Я. Э. Ян Цепляк, але ён хутка памёр, не абняўшы пасаду і 24. VI. 1926 г. Віленскім мітрапалітам быў назначаны Я. Э. Ромуальд Ялбжыкоўскі.

Дзейнасьць міт. Ялбжыкоўскага азначалася вострым наступам супраць усяго беларускага ў рэлігійным жыцьці. У адказ на гэта прадстаўнікі Беларускае Хрысціянскае Дэмакратыі перадалі 12. XI. 1926 г. мітрапаліту мэмарыял з дамаганьнямі: 1. неадкладна ўвесьці ў Віленскую Кат. Дух. Сэм. выклады беларускае мовы, гісторыі і літаратуры; 2. прыдзяленьня беларусам каталіком аднаго з віленскіх касьцёлаў; 3. дапушчэньня ўжываньня беларускае мовы нароўні з польскаю і лацінскаю ў адносінах з духоўнаю уладаю; 4. распараджэньня, каб у парахвіях з беларускім насельніцтвам казаньні і дадатковыя багаслужэньні адбываліся пабеларуску; 5. каб беларускіх сьвятароў прызначвана ня ў польскія, а ў беларускія парахвіі. Міт. Ялбжыкоўскі адказаў прадстаўніком БХД, што ён ня выканае ніводнага з вышэйпералічаных жаданьняў (70).

Тры дні перад тым 9. XI. 1926 г. падчас зьезду польскіх біскупаў у Вільні здарыўся яшчэ больш характэрны выпадак, які поўнасьцю выявіў сапраўднае абліччa міт. Ялбжыкоўскага. На зьезьдзе прысутнічаў а. архімандрыт айцоў Марыянаў Андрэй Цікота і ён зьвярнуў увагу на неабходнасьць ужываньня беларускае мовы ў каталіцкай працы між беларусамі. На гэта міт. Ялбжыкоўскі з бязьлічным цынізмам параіў а. архімандрыту ехаць да бальшавікоў і там гаварыць пабеларуску (71). І характэрна, што ніхто з прысутных польскіх ерархаў не сказаў нічога супраць такога адказу.

У далейшым наступ. міт. Ялбжыкоўскага на беларускае каталіцкае жыцьцё ўзмацняўся з дня на дзень. Не дарма яго агульна пачалі называць беларусажэрам. У студзені 1927 г. ён перанёс кс. Віктара Шутовіча з беларускае парахвіі Барадзенічы, дзе той працаваў 10 гадоў, у польскую парахвію Тшцяны ды адначасна здэградаваў з параха на вікарага, а на яго мейсца назначыў ксяндза паляка. У тым-жа часе быў зглясіўся на працу ў Віленскую дыяцэзію кс. Ст. Бланкоўскі, але з умоваю, как быў прызначаны ў якую небудзь беларускую парахвію — такога назначэньня не атрымаў.

Убачыўшы такую руплівасьць мітрапаліта ў змаганьні з беларускім рэлігійным жыцьцём, польскія адміністрацыйныя ўлады ў сваю чаргу ўзмоцнілі супрацьбеларускі наступ. Польскі суд засудзіў кс. Вінцеся Гадлеўскага жодзіскага параха на два годы турмы, абвінавачваючы яго ў «распаўсюджваньні бунтарскае дактрыны, якая мела на мэце адарваць ад Польшчы беларускія землі». Міт Ялбжыкоўскі не сказаў ні слова абароны за свайго сьвятара (72). Драбнейшыя

67. Wilanowski B., Ustepstwa ze strony Kosciołа na rzecz panstwa. Wilno 1927.

68. Ян Шутовіч. Ксёндз Адам Станкевіч. У 25-ыя ўгодкі сьвяшчэнства і беларускай нацыянальнай дзейнасьці. Вільня 1940. стар. 46.

69. Конкордат. «Крывіч» Нр. 9. Коўня 1925. стар. 97-98.

70. Piotr Kaczan. Situation religieuse de Blancs-Ruthens catholiques en Pologne. «Natio». Revne consacrée aux problemes des minorités en Pologne. (U catyroch movach), Warsawa 1927. Nr. 7-8. star. 78.

71. Piotr Kaczan. Op. cit. star. 70.

72. Piotr Kaczan. Op. cit. Nr. 3-4, star. 146.

супрацьбеларускія выступленьні польскае паліцыі ставаліся што раз часьцейшымі.

Да якое ступені даходзіў шавінізм міт. Ялбжыкоўскага мог даведацца ўвесь сьвет падчас паўторнае каранацыі іконы Вастрабрамскае Божае Маці. На Вострай браме быў зьнішчаны лацінскі напіс і памешчана польскі: «**Królowo Korony Polskiej módl się za nami**». Такое надужыцьцё рэлігійных сьвятасьцяў відаць самі палякі ўважалі абураючым і спадзяваліся, што яно можа выклікаць паважныя заварушэньні, дзеля гэтага перад каранацыяў, якая адбывалася 2. VII. 1927 г. арыштована цэлы рад беларускіх дзеячоў і выпушчана іх толькі пасьля каранацыі (73).

Ня маючы свае ерархіі беларусы каталікі маглі ставіць супраціў толькі праз адзіную прокаталіцкую арганізацыю Беларускую Хрысціянскую Дэмакратыю і прокаталіцкую газэту «Беларуская Крыніца» і вось на гэтыя ўстановы абрушыўся міт. Ялбжыкоўскі. Дня 10. XII. 1928 г. ён выдае загад Нр. 5216 усім сваім парахам, у якім забараняе вернікам належаць да Беларускае Хрысціянскае Дэмакратыі і чытаць «Беларускую Крыніцу», бо яна маўляў займела памылковую дарогу «рэлігійнага індыфэрэнтызму і бальшавізму» (74). Таго-ж дня кс. Адам Станкевіч атрымаў асобны ліст ў лацінскай мове з такімі-ж забаронамі. Наступнага дня галоўна ўправа БХД выслала ў гэтай справе тэлеграму Апостальскаму Пасаду, а праз пару тыдняў шырока апрацаваны мэмарыял. Адначасна беларускія арганізацыі ў Вільні абвесьцілі пратэст супраць загаду мітрапаліта. Адказу з Рыму на мэмарыял ня было ніякага і БХД прадаўжала сваю дзейнасьць, але яе палажэньне было вельмі няпрыемнае — публічнае ачорненьне з вуснаў мітрапаліта ставіла ўсіх, у тым ліку і Апостальскі Пасад у заклапотанае палажэньне, але шавіністычны нацыяналізм міт. Ялбжыкоўскага ня лічыўся з нічым.

Маючы такога мітрапаліта, нацыяналістычна настроенае польскае духавенства ўважала, што мае разьвязаныя рукі ў супрацьбеларускіх пачынаньнях. Капітульны канонік кс. Кароль Любянец заснаваў у сваім маёнтку Мінойты каля Ліды адзіную ў сваім родзе «школу польскасьці». Уся гэтая школа палягала на тым, каб прывабіць праваслаўных беларусаў, перацягнуць іх на каталіцызм лацінскага абраду і перапісаць на палякаў. «Вучняў» прынаджвалася рознымі абяцанкамі, а «навука» трывала ўсяго тыдзень-два і галоўным пунктам праграмы афіцыяльна мела катэхізацыю, а ў сапраўднасьці гэта было «перакананьне», што кожны паляк мусіць быць каталіком, а каталік — палякам. Па некаторым часе кс. Любянец пераехаў назад у Вільню, а школу даручыў весьці адпаведна вышколеным манашкам-катэхэткам, засобіўшы іх і вучняў фінансава.

Што рабіў кс. Любянец у Мінойтах, тое-ж рабілі амаль усе польскія парахі на Беларусі. Карэспандэнцыі ў «Беларускай Крыніцы» і «Хрысціянскай думцы» даюць безьліч прыкладаў такое дзейнасьці. З свайго боку польская паліцыя пасьля дэкрэту міт. Ялбжыкоўскага супраць «Беларускае Крыніцы» значна зактывізавала супрацьбеларускую дзейнасьць, канфіскуючы пры розных нагодах беларускія каталіцкія часапісы і нават малітаўнік «Голас душы».

Ужо перш успаміналася, што найбольш вострыя атакі былі скіраваны супраць больш сьведамых і актыўных беларускіх сьвятароў — гэтая акцыя ў Віленскай дыяцэзіі ня спынялася ніколі. У 1928 г. а. др. Казімер Кулак, ня могучы атрымаць працы ў беларускай парахвіі, быў на нейкі час прыняты біс. Лязінскім у Пінскую Дух. Сэм., але і там мусіў выкладаць папольску, а потым і зусім быў выкінены і міт. Ялбжыкоўскі паслаў яго ў парахвію Ляндвараў. У 1929 г. а Францішак Чарняўскі быў высланы ў Францыю працаваць у польскай калёніі. У 1931 г. быў выкінены з ліку прафэсароў Віленскае Дух. Сэм. а др. Язэп Рэшэць і перанесены перш на прэфэкта ў настаўніцкую сэмінарыю, а потым высланы ў глухую мазурскую вёску, адкуль у 1938 г. выехаў у ЗША. Звычайна гэткія перакідваньні адбываліся бяз ніякага розгаласу, але калі ў 1927 г. на мейсца кс. В. Гадлеўскага ў Жодзішкі быў прысланы ксёндз паляк, дык справа дайшла да скандалу — вернікі замкнулі касьцёл і плебанію, і польскага параха ў беларускую парахвію ўвяла польская паліцыя, выламаўшы дзьверы карабінамі.

У афіцыяльным органе Віленскае каталіцкае мітраполіі зьяўляліся няраз такія артыкулы і лісты мітрапаліта, што нават некаторыя палякі іх ацэньвалі вельмі крытычна, бо як пісаў адзін расейскі каталіцкі часапіс, які выходзіў пад рэдакцыяю кс. Около-Кулака: «Усё няшчасьце ў тым, што на так званых усходніх ускраінах Польшчы царкоўная работа залішне зьвязана з палітычнаю» (75). А польская палітыка на беларускіх землях азначалася неімаверным зазнайствам і брутальнасьцю. З гэтага гледзішча здарыўся вельмі характэрны выпадак з а. др. праф. Янкам Тарасэвічам падчас яго падарожжа ў 1935 г. з Амэрыкі (ЗША) на бацькаўшчыну. Калі ён прыехаў у родную вёску Клешнякі, дык атрымаў загад ад павятавага Шчучынскага старосты неадкладна пакінуць вёску і агулам бацькаўшчыну (76).

(Працяг будзе)

---

73. Piotr Kaczan. Op. cit. Nr,7-8, star. 96.

74. Ks. Ad. Stankevic. Op, cit, («Chryscijanskaja Dumka» Nr. 27(175). Vilnia 1938. star. 6),

75. «Китеж» № 1-3. Варшава 1929. у зьвязку з адным артыкулам, які зьявіўся у «Wiadomosci Archidiecezalne Wilenskie» Nr. 5. r. 1929.

76. Ks. dr. prof. J. Tarasevic, Na Backauscynu. Vilnia 1936.

# Інаўгурацыя

(Працяг 4-ы да апавяданьня «**Няведамыя шляхі**»)

Лета для Андрэйкі праляцела стралою; і не агленуўся, як трэба было ехаць вучыцца. Зборы да падарожжа былі невялікія. Дзядзька Сьцяпан, абладаваўшы воз усім неабходным, вёз пляменьніка ў горад з прыхаванаю трывогаю за няведамае і няпэўнае заўтра на новым жыцьцёвым шляху. Аднак убачыўшы ў бурсе гурт расьсьмяянае моладзі, падкруціў вусы і вышэй падняў галаву.

— З гэткімі пракудамі ў жыцьці не прападзе,— казаў ён сам сабе, едучы дамоў, але з другога боку яму прыходзіла думка: Кінуў бышцам у мора, ці ён патрапіць там плаваць? І таму пакуль даехаў да Ваўкавіцкага лесу, некалькі разоў аглядаўся назад: Ці не бяжыць ён за возам?...

Андрэйка назаўтра рана з няпрыхаванаю цікавасьцю чакаў першае лекцыі. У замкавіцкай паўшэхнай школе, хоць на перапынку ўсе вучні гаварылі пабеларуску, але выклады адбываліся папольску і да гэткага стану ён нібы прывык, а тут вось ўсё мае быць у роднай мове. Першая лекцыя якраз і была беларуская мова і яна Андрэйку так запаміталася, што напэўна колькі будзе жыць, яе не забудзецца. Слухаў ён гутарку настўніка з нявымоўнаю насалодаю і тады ўпяршыню адчуў усю веліч і вартасьць роднае мовы.

На задумлёнае аблічча Андрэйкі зьвярнуў увагу ягоны сусед на лаўцы і пазьнейшы шчыры прыяцель Мікола. Вяртаючся пасьля выкладаў у бурсу, Мікола спрабаваў жартаваць з Андрэйкі:

— Ты, відаць, на хмары быў заблудзіў, ці што, падчас першае лекцыі?

— На хмары то не, але ў нашую паўшэхную школу дык праўды быў заблудзіў — адказаў сьмяючыся.

— А што, можа там каго незабыўнага пакінуў?

— Яшчэ ня маю «незабыўных — раптам спаважнеўшы, казаў Андрэйка.

— О, гавары, гавары! Думаеш я ня ведаю, што ціхая вада берагі рве?

— Мікола, ты гаворыш аб пустым, а я думаў зусім аб паважных справах.

— Ужо так адразу ад павагі зачынаеш?

— Дык гэта неяк само сабою прыходзіць, калі параўняеш тое, што чуеш тут і тое, што чуў перад тым. Тады адразу стае ясна, як моцна калечаць чужыя настаўнікі сьведамасьць моладзі чужою моваю ў чужых школах.

— О глядзі ты ў якую паважную бочку ўсунуўся! Гэта ў цябе перажываньне першага ўражэньня, а я ўжо прывык ад першае клясы, дык мне хоць-бы што і было-б дзіўна, как было іначай, — казаў паважна Мікола.

— А ў вас у вёсцы якая школа?

— У вёсцы была перш беларуская школа, а потым яе перамянілі на польскую, але і цяпер у нас дзеці сьмяюцца з «панскае» мовы настаўніцы: «Пані Жаба пшэкае».

— Відаць, што ў вас ёсьць крыху старэйшых, што моцна абстойваюць за родную справу.

— Гэта праўда — гаварыў ажыўлена Мікола — у нас часта ставяць беларускія спэктаклі, сьпяваюцца беларускія песьні. — Ды ведаеш, з нашае вёскі ажно пяцёх вучацца ў гімназіі. Вось пабачыш, як мы будзем выступаць на інаўгурацыі!

— А калі будзе інаўгурацыя?

— Здаецца за тры тыдні.

Мікола ўгадаў. Роўна праз тры тыдні адбывалася ў гімназіі інаўгурацыя новага навучальнага году. Уласьціва гэта была сьціплая фармальнасьць, але сабраныя разам усе вучні і настаўнікі, прамова дырэктара, выступленьне хору, аркестры і цікавы нумар Міколавых аднавяскоўцаў — усё гэта зрабіла надзвычайна глыбокае ўражэньне на Андрэйку. Калі на заканчэньне ўсе сабраныя ў салі сталі на зважай і запялі гымн «Не пагаснуць зоркі ў небе», дык Андрэйка перажываў штосьці, чаго ніколі дагэтуль ня ведаў. Яму ставалася то горача пад сэрам, то мурашкі бегалі па скуры, то сьлёзы станавіліся ў вачох. Штосьці новае і моцнае заварушылася ў грудзях і яно акрыляла душу да змаганьня з найбольшымі перашкодамі.

Па заканчэньні інаўгурацыі саля апаражнялася паволі. Андрэйка пад уплывам перажываньняў хацеў быць крыху на адзіноце і таму, не чакаючы Міколы, выйшаў на вуліцу і накіраваўся да бурсы. Але неспадзевана яго дагнаў вучань з старэйшае клясы — Барыс:

— Што-ж ты, Андрэю, адзін маршыруеш?

— А што-ж дарога невялікая, дык і адзін не заблуджу.

— Як-жа падабалася інаўгурацыя — пытаўся Барыс ціхім і лагодным голасам, які адразу вытвараў атмасфэру сяброўства і даверу.

— Вельмі падабалася, толькі мне цяжка выказаць свае ўражэніні.

— Ну і добра, на вуліцы ня варта раскашэльвацца з сваімі ўражэньнямі, ты вось паглядзі, якім вокам глядзіць на нас «рхангель» на другім боку вуліцы. (Там стаяў паліцыянт з карабінам за плячыма). Мусіць каб мог, дык-бы з костачкамі нас схрумстаў. Тут, брат, табе другая інаўгурацыя і важнейшая чым першая: сьцеражыся, каб у пашчу ня трапіць. Не глядзі ў той бок.

— Яшчэ наўна акрамя гэтых, як кажаш «архангелаў» у формах тут ёсьць нямала тайнікаў? — пытаўся паціху Андрэйка.

— А так! гэтых «цьвёрдых знакаў», хоць адбауляй.

Так гутарачы, яны і не зьвярнулі ўвагі, што ім насутрач ішлі дзьве гімназісткі з польскае гімназіі і зерылі на іх злоснымі вачыма. А злавацца было зашто, бо-ж на іх, на фанабэрыстых паненак, гэтыя «мужыцкія» гімназісты пагрэбавалі нават зьвярнуць увагу. Дык каб хоць як колечы адпомсьціць за такую зьнявагу, адна з іх, мінаючыся, азвалася з прызірствам:

— Паўлюкі!

— Янычаркі! — голасна адказаў Барыс.

Паненкі аглянуліся, але не знайшоўшы чым больш укалоць гімназістаў, пайшлі далей.

— Вось бачыш, як нашая костка можа сабачым мясам абрасьці — казаў да Андрэйкі Барыс— гэта-ж беларускія шляхцянкі, а што з іх выходзіць?

Рэдка каторы дзень для Андрэйкі быў так багаты на перажываньні і ўспаміны, як той дзень інаўгурацыі.

Навука ў гімназіі для Андрэйкі ня была цяжкаю, але штодзеннае жыцьцё было вельмі цяжкім. Кнігаў купіць ён ня мог і мусіў пазычаць у багацейшых сяброў. Нават часам на сшыткі ня было ламанага гроша. Харчы ў бурсе не заўсёды былі здавальняючыя, але дакупіць сабе штосьці зьесьці ён ня меў за што. У гэтым была толькі адна пацеха, што ён ня быў адзін у сваёй беднасьці. Няраз у часе шэрых гадзінаў, калі ў бурсакоў кішкі пачыналі граць марша, але яшчэ гэтая «музыка» была ня надта моцнаю, дык арганізаваліся канцэрты жартаблівых песень, або струннае аркестры і яны хоць на некаторы час заглушалі канцэрт галодных жыватоў. І так усякія цяжкасьці і нават цярпеньні перажываліся з юнацкім гумарам.

У асабліва цяжкіх хвілінах Андрэйка ўспамінаў інаўгурацыйны дзень і паўтараў:

— Не на тое ўступіў сюды, каб адступаць. Упярод, пакуль Бог дае сілы!

**А. Жменя**

# НА РЭЛІГІЙНАЙ НІВЕ

### АСЬЦЯРОГА СЬВЯЦЕЙШАГА АЙЦА ПЕРАД МАТЭРЫЯЛІЗМАМ

Сёлета на пачатку верасьня адбыўся бэльгійскі Марыйскі Кангрэс, які закончыўся 5-та верасьня пасьвячэньнем Бэльгіі непарочнаму Сэрцу Марыі. Да кангрэсістаў прамаўляў праз радыё Сьвяцейшы Айцец Пій XII. У сваёй прамове Сьвяцейшы Айцец зьвярнуў увагу на неабходнасьць змаганьня супраць матэрыялізму, які прасякае ўва ўсе пласты грамадзтва.

«Шмат людзей, казаў Сусьветны Архірэй, шукаюць толькі выгаднага жыцьця, забясьпечанага заўтра, але не зьвяртаюць увагі на надпрыродную сапраўднасьць, ня слухаюцца ніякіх заклікаў да пасьвяты і ня здольныя зразумець часам крайне неабходных патрэбаў іншых сацыяльных клясаў народу. Можна лёгка забыцца, што дачасныя выгады не зьяўляюцца галоўнаю мэтаю жыцьця і што ёсьць іншыя багацьці, бязьмежна больш вартасныя і больш трывалыя — гэткаю ёсьць Божая любоў, з якою чалавек можа забыцца аб самым сабе, цалкам аддацца Богу, і выкананьню Яго волі».

### БРЭТАНІЯ ПАСЬВЯЧАНА ДЗЕВЕ МАРЫІ

Найбольш пабожная правінцыя Францыі — Брэтанія, сёлета 26 чэрвеня на велічнай урачыстасьці ў Сант-Ан-д'Орэ пасьвячана Прэсьвятой Дзеве Марыі. Акт пасьвяты прачыталі супольна ўсе прысутныя на ўрачыстасьці біскупы на чале з брэтанскім кардыналам Я. Эм. Рок. На заканчэньне ўрачыстасьці прамаўляў да прысутных праз радыё Сьвяцейшы Айцец Пій XII. Сваё слова Сьвяцейшы Айцец закончыў двума прывітаньнямі ў брэтонскай мове. Гэта першы раз у гісторыі Папа карыстаўся брэтонскаю моваю.

### ПАДРЫХТОЎКА ДА ЭЎХАРЫСТЫЧНАГА КАНГРЭСУ

Чарговы Міжнародны Эўхарыстычны Кангрэс адбудзецца 17-24 ліпеня 1955 г. у сталіцы Бразіліі — Рыо-дэ-Жанэйро. Ужо ад цяпер вядуцца падрыхтоўчыя працы для годнага ўшанаваньня Эўхарыстычнага Хрыста.

### ІНЖЫНЕРЫ І АДНОСІНЫ НА ПРАДПРЫЕМСТВАХ

Нядаўна Міжнароднае Аб'еднаньне Каталіцкіх Інжынераў мела свой другі Кангрэс у Дэльфт (Галяндыя). Даклады і дыскусіі мелі на ўвеце азначыць адказнасьць інжынераў у справе адносінаў да работнікаў на прадпрыемствах. Выходзячы з заложаньня, што ўсе працоўныя ў прадпрыемствах ёсьць братамі ў Хрысьце, інжынеры падчырквалі з націскам, што людзкая годнасьць і свабода працоўных не павінны ахвяроўвацца дзеля празьмернага збольшаньня вытворчасьці. Інжынеры мусяць слухацца і выконваць загады сваіх зьверхнікаў, але калі ад іх вымагаюць штосьці нязгоднае з маральнасьцю і справядлівасьцю, дык яны забавязаны адпаведна зарэагаваць, хоць-бы нават гэта было зьвязана з рыскам страціць сваё становішча. У агульным выніку Кангрэс зьвяртае ўвагу ўсіх зацікаўленых на неабходнасьць тако-

га плянаваньня працы, каб тэхнічыны і эканамічны прагрэс не стаяў на перашкодзе «разьвіцьця чалавека, сына Божага і брата Хрыстовага».

### ПАДВОДНАЯ КАПЛІЦА

Недалёка ад гішпанскага берагу ў адной з падводных пячораў Міжземнага мора 4 жніўня ўстаноўлена статую Маці Божае. Статуя ёсьць копіяй Багародзіцы з Монтсэрат, патронкі Каталёніі. Зроблена яна з волава і памалявана фасфарызуючаю масаю, так што зіхаціць у сваёй падводнай сьвятыні. Гэтую капліцу ўладзілі падводныя рыбакі і спартоўцы плаваньня. Асьвячаньне статуі адбылося ў падводнай пячоры, куды спускаўся сьвятар.

### НАРАДА КАТАЛІЦКІХ І ЭВАНГЕЛЬСКІХ АКАДЭМІКАЎ

Нямецкія каталіцкія і эвангельскія акадэмікі мелі сёлета 20 і 21 чэрвеня супольную нараду ў Бад-Боль на тэму: «Супрацоўніцтва веравызнаньняў у дзяржаве». У дакладах і дыскусіях шырока парушалася пытаньне ўзаемнае талеранцыі і зьвярталася ўвагу на спосабы, якімі можна прадухіліць веравызнавальныя напружаньні.

### ПРАТЭСТАНЦКАЯ ПРАПАГАНДА І КАМУНІЗМ

Прэзыдэнт Калюмбіі Густаў Пііна, прамаўляючы сёлета на адкрыцьці канстытуцыйнае сэсіі калюмбійскага сойму, між іншым закрануў праблему пратэстанцкае прапаганды ў Калюмбіі і пры гэтым сьцьвердзіў, што яна стварае для ўраду паважныя клопаты, бо штодзенная практыка ясна паказвае, што «пратэстанцкая прапаганда ў лацінскіх краінах ня прыносіць з сабою пабольшаньня ліку шчырых пратэстантаў, але наадварот, яна зьменшвае рэлігійнасьць і няўмольна вядзе да камунізму». З гэтага факту быў ясны высновак: «Калі мы дазволім, каб выбухнулі рэлігійныя канфлікты, дык будзем сьведкамі разьбіцьця нашае бацькаўшчыны».

### ЭКЗАРХАТ САВЕЦКАГА ПАТРЫЯРХА Ў ЗША

Пасьля сьмерці ў мін. годзе міт. Макарыя Ільінскага экзарха савецкага патрыярха ў ЗША сёлета на яго мейца быў прыехаў арх. Гермоген Кожын, ведамы з сваіх супрацькаталіцкіх выступленьняў. Але нядаўна прэса прынесла вестку, што ён памёр 4-VIII, а арх. Адам Філіпоўскі перанесены на пакой: Экзархат астаўся бяз ерарха.

### СУПРАЦЬРЭЛІГІЙНЫ НАСТУП У ЮГАСЛАВІІ ПРАДАЎЖАЕЦЦА

Камуністычная ўлада ў Югаславіі стараецца за ўсякую цану апанаваць Праваслаўную Царкву. З гэтаю мэтаю ўжо некалькі гадоў існуе «Общество сербско-православных священников», але да гэтага часу праваслаўныя югаслаўскія япіскапы ня прызналі гэтае арганізацыі. Пасьля актаў тэрору супраць Праваслаўнае Царквы, ерархі даўжэйшы час нічога не гаварылі аб «Обществе» і нават былі пагалоскі быццам сталіся нейкія кампрамісы ў гэтай справе. Але ў часе архірэйскага сабору, які адбыўся сёлета між 31-га траўня і 19 чэрвеня «Общества» не зацьверджана. Камуністы выбухлі лютасьцю супраць ерархаў і ў першую чаргу арыштавалі мітр. Арсенія (Брадваніча) Чарнагорскага, які найбольш мужна дзейнічаў і выступаў супраць прызнаньня прокамуністычнае арганізацыі. Зразумела, што афіцыяльнаю прычынаю да арышту было абвінавачаньне ў падрыхтоўцы дзяржаўнага перавароту і за гэта засуджана адважнага ерарха за 12 гадоў турмы. Міт. Арсеній мае ўжо 74 гады, дык гэты прысуд раўназначны сьмяротнаму прыгавору. Сэрбскія арганізацыі ў вольным сьвеце зьвяртаюцца в шматлікімі пратэстамі і мэмарыялами да дзяржаўных дзеячоў вольнага сьвету, але ці іх голасу паслухаюць?

# БЕЛАРУСКАЯ ХРОНІКА

### НА МІЖНАРОДНАЙ АРЭНЕ

#### На Асамблеі «Pax Romana».

Сёлетняя пленарная Асамблея міжнароднае каталіцкае арганізацыі «Pax Romana» (адзьдзел Міжнароднага Руху Каталіцкіх Ітэлектуалістых) адбылася між 1-7 жніўня ў Лісабоне і Фатіме (Партугалія). На ёй удзельнічала каля 150 прадстаўнікоў з розных краінаў сьвету. Галоўным аб'ектам студыяў быў апосталят у прафэсіянальным жыцьці лібэральных прафэсіяў. Для ўдзельнікаў Асамблеі ў нядзелю 1-га жніўня Я. Эм. Кардынал Эмануіл Цэрэжэйра Патрыярх Лісабоны адслужыў урачыстую Службу Божую ў царкве сьв. Яна Божага, а пасьля яе адбылася ўрачыстая інаўгурацыйная сэсія Асамблеі ў салі Вышэйшага Тэхнічнага Інстытуту. Усё папалудне і наступны дзень адбываліся экскурсіі ў гістарычныя партугальскія мяйсцовасьці і ў Фатіму.

Праца Асамблеі пачалася 3-га жніўня. Пасьля выслуханьня асноўных дакладаў уласьцівая праца вялася ў трох спэцыяльных камісіях: 1) для праблемаў прафэсіянальнага фармаваньня, 2) прафэсіянальнае дзейнасьці і 3) суадносінаў унутры прафэсіянальных згуртаваньняў і судносінаў між прафэсіямі ў лякальнай, нацыянальнай і міжнароднай плошчы. У працах трэцяе камісіі ўдзельнічаў і беларускі дэлэгат ад БАКА «Рунь». Пра-



**Вёска Парэча на Палесьсі перад 1939 г.**



**Дуб з ваколіц возера Свіцязі.**

цы ў камісіях азначаліся сваім высокім навуковым узроўнем і творчым энтузіязмам, тым энтузіязмам, які можа вытварыць толькі шчырая сяброўская атмасфэра, а якраз гэткая атмасфэра адчувалася ўсюды і захапляла ўсіх. Там знайходзілі супольную мову амэрыканскія, францускія, ангельскія, нямецкія, гішпанскія, паляндзкія, партугальскія і іншыя прафэсары сусьветнае славы і беларускі студэнт, каб супольна дыскутаваць усіх аднолькава цікавячыя праблемы.

Уканцы адбылося пленарнае паседжаньне, прысьвечанае статутовым зьменам і былі разгледжаны заявы аб прыняцьці ў сябры новых нацыянальных арганізацыяў ды выбраныя тры новыя сябры ў Сталую Раду «Пакс Романа». Парушалася так-жа пытаньне сусьветнага кангрэсу «Пакс Романа», які мае адбыцца налета ў Лёндане між 18-25 жніўня. Усе працы Асамблеі пачыналіся і канчаліся супольнаю малітваю.

З нагоды гэтае Асамблеі варта зацеміць, што ў гэтай сям'і вольных народаў, якая аб'ядноўвае 77 студэнцкіх арганізацыяў з 47 краінаў і 54 фэдэрацыі каталіцкіх інтэлектуалістаў з 39 краінаў і мае да таго яшчэ сябрамі 9 міжнародных каталіцкіх арганізацыяў, беларусы здабылі сабе належнае мейсца як роўнапраўныя сябры, маючы такі самы вырашальны голас як і дэлегаты з найбольшых дзяржаваў. Цяпер бязумоўна павінна ляжаць ў інтарэсе ўсіх сьведамых беларусаў каб прычыніцца ў меру магчымасьці да падтрыманьня БАКА «Рунь», якая рэпрэзэнтуе беларусаў у гэтай міжнароднай сям'і і здабывае адначасна шчырых сяброў для Беларусі спаміж дэлегатаў вольных народаў.

### Перамены ў Інстытуце для Вывучэньня Гісторыі і Культуры СССР

Маладая навуковая ўстанова, заснаваная стараньнямі Амэрыканскага Камітэту ў 1950 г. у Мюнхэне для вывучэньня гісторыі і культуры ў СССР мела сёлета між 5-7 ліпеня пятую з чаргі навуковую канфэрэнцыю на агульную тэму «Сучаснае становішча і пэрспэктывы ў разьвіцьці палітычнага, эканамічнага і нацыянальнага пытаньняў у СССР». У канфэрэнцыі ўдзельнічала каля 200 навукоўцаў з заходняэўрапэйскіх краінаў, з ЗША і эміграантаў з Савецкага Саюзу, у тым ліку і 8 беларусаў. Было прачытана 11 асноўных рэфэратаў з адпаведнымі корэфэратамі і дыскусіямі. Ад беларусаў прачытаў рэфэрат др. Ст. Станкевіч на тэму: «Нацыянальная палітыка Крамля ў Беларусі», а С. Кабыш прачытаў корэфэрат да гэтае тэмы.

У параўнаньні да папярэдніх канфэрэнцыяў гэтая канфэрэнцыя вырозьнівалася тым, што давала поўную магчымасьць прадстаўнікам нерасейскіх народаў, выказаць аб'ектыўную праўду і паказаць сапраўднае аблічча мерапрыемстваў Масквы адносна нерасейскіх народаў, выяўляючы ўсе спосабы вынішчаньня гэтых народаў.

Тыдзень пасьля канфэрэнцыі 13 ліпеня адбылася ў Мюнхэне агульная асамблея сяброў Інстытуту, у часе якое дакааптавана 23 новых сяброў спаміж нерасейскіх навукоўцаў і выбрана новыя кіраўнічыя органы. Ад беларусаў увайшло 4 сяброў. Навуковую Раду Інстытуту выбрана ў такім складзе: старшыня — праф. Мартос, заст. старшыні — праф. Мерцалаў і др. Кірымал (крымскі татарын), сакратар — др. Ст. Станкевіч.

Прынята так-жа новы статут Інстытуту. Ад гэтага часу яго здейнасьць значна пашыраецца, прызначаецца больш стыпэндыяў для навуковых працаў для нерасейскіх вучоных і запланавана выданьне публікацыяў Інстытуту акрамя дагэтулешніх публікацыяў у ангельскай і расейскай мовах так-жа і ў іншых мовах, у тым ліку і ў беларускай.

### З песьняй на унівэрсытэцкай сцэне

Унівэрсытэт у Колюмбус, штат Огайё у ЗША

штогод ладзіць «Міжнародны Тыдзень» для збліжэньня і лепшага паразуменьня між народамі сьвету. У праграме Тыдня заўсёды адбываюцца мастацкія вечары з выступленьнямі паасобных нацыянальных групаў.

Сёлета ў мастацкім вечары ўдзельнічала 13 нацыянальнасьцяў: арабы, аўстралійцы, беларусы, гавайцы, грэкі, гу. нцы, індыйцы, немцы, пакістанцыі, украінцы, філіпінцы, югаслявяне і японцы. Беларускія песьні сьпявалі дзьве маладыя сьпявачкі і будучыя студэнткі Іра Каляда і Роза Шыкалюк. Добрае выкананьне і багацьце іхных галасоў сапраўды чаравала слухачоў. Пад уражэньнем беларускіх мэлёдыяў арганізатарка культурных вечароў пры унівэрсытэце дзякуючы маладым сьпявачкам, расцалавала іх на сцэне, выклікаючы гэтым сапраўдную буру воплескаў.

### Выстаўка ў Пэрт.

Між 9-22 жніўня адбылася ў сталіцы Заходняе Аўстраліі — Пэрт выстаўка мастацтва і ручных вырабаў. У выстаўцы ўдзельнічалі: ангельцы, беларусы, галяндцы, інданэзійцы, кітайцы, мальтанцы, палякі, расейцы, украінцы, эстонцы, югаслявяне, японцы, група ад «Эспэранто» і нш. Беларускі адзьдзел на выстаўцы быў зарганізованы стараньнем Адзьдзелу Задзіночаньня Беларускіх Вэтэранаў у Пэрт, прытым сябры Адзьдзелу забясьпечылі дзяжурства на выстаўцы. Беларускі адзьдзел выстаўкі быў прыгожа аформлены і карыстаўся вялікаю папулярнасьцю ў глядзельнікаў. Але нажаль ня ўсе з глядзельнікаў прыходзілі падзіўляць выстаўку; кіраўнікі польскае калёніі ў Пэрт, заўважыўшы ў беларускім адзьдзеле Вастарбрамскую ікону Божае Маці стараліся нагаварыць карэспандэнтку каталіцкае газэты «Сындэй Тайм», каб зганіла беларусаў за «прысабечваньне польскіх сьвятасьцяў». Гэтыя нагаворы выклікалі самазразумелае зацікаўленьне карэспандэнткі і яна зьвярнулася да беларусаў па дакладнейшыя інфармацыі — польскія інтрыгі кончыліся нічым.

Выстаўка была сфільмаваная. Разам з добрымі ўражэньнямі аб беларускіх экспанатах, глядзельнікі выносілі з выстаўкі так-жа добры ўспамін і аб самой Беларусі. Вэтэраны з Пэрт з гонарам выканалі свой абавязак адносна свае Бацькаўшчыны.

## БАЦЬКАЎШЧЫНА

### Рамонт царквы

Як паведамляе «Звязда» з 25-VI г. г. у ліку тых будынкаў, якія цяпер аднаўляюцца ў БССР, знаходзіцца Мікалаеўскі сабор у Магілёве. Рамантуецца аднак ён толькі як архітэктурная памятка з XVII ст., а не як сьвятыня.

### Узмацненьне супрацьрэлігійнае прапаганды

Апошнім часам ува ўсім Савецкім Саюзе, а ў тым ліку ў БССР супрацьрэлігійная прапаганда значна ўзмоцнена. У савецкай прэсе так у цэнтральнай, як і ў правінцыянальнай і фаховай усьцяж публікуюцца артыкулы бязбожнага зьместу. Найбольш іх надрукавала «Чырвоная змена», бо-ж для камуністаў вельмі недаспадобы, што нават у радох камсамольцаў выяўлена значнае зацікаўленьне да рэлігійнага жыцьця і нахіл да рэлігійнасьці. На якім узроўні вядзецца супрацьрэлігійная прапаганда і куды яна найбольш скіравана можна бачыць са зьместу артыкулаў. І так у «Чырвонай змене», пачынаючы ад 15 траўня зьявіліся артыкулы Г. Ліўшыца і іншых на тэмы: «Марксізм-ленінізм аб рэакцынай сутнасьці рэлігіі», «Як і чаму ў людзей з'явілася вера ў Бога?», «Ватыкан на службе ангала-амэрыканскага імпэрыялізму», «Забабоны — перажыткі мінулага» і інш.

У сваю чаргу «Звязда» ня менш часта публікуе артыкулы на гэтую-ж тэму. Вось для прыкладу некаторыя з іх: А. Гагарын «Паходжаньне і клясавая сутнасьць хрысьціянства» Нр. 144, у Нр. 175 перадрукована перадавіцу з «Правды»: «Шырэй разгарнуць навукова-атэістычную прапаганду». У сьлед за тым 4-VII зьявіўся артыкул Н. Алексютовіча «Рэлігія — вораг навукі і прагрэсу», а праз пару дзён 8-VIII зьявіўся ананімны артыкул «Газэта і навукова-атэістычная прапаганда», у якім скрытыкована «Чырвоную зьмену» за нездавальняючую «мэтанакіраванасьць паказу дзейнасьці камсамольскіх арганізацыяў у прапагандзе навукова-прыродазнаўчых ведаў, паказу форм і мэтадаў антырэлігійнае работы сярод моладзі». Усе іншыя газэты ў БССР стараюцца не адставаць у гэтай прапагандзе.

Гэткае ўзмацненьне бяз сумніву мае аснову і гэтаю асноваю ёсьць ня што іншае, як ажыўленьне рэлігійнага жыцьця. Як скончыцца гэтая атака, тымчасам нельга прадбачыць, але ўжо нічога новага ў супрацьрэлігійнай барацьбе бальшавікі выдумаць ня могуць дык і вынікі яе хіба-ж ня будуць іншыя, як папярэдніх вострых атакаў.

### Супрацьнезалежніцкая прапаганда

Нядаўна дзяржаўнае выдавецтва БССР у Менску выдала кніжку С. М. Ісачэнкі «Правал амэрыканска-англійскіх агрэсіўных планаў у Беларусі ў 1917-20 г.г.». Няма ведама, ці гэтая кніжка калі зьявіцца ў кнігарнях вольнага сьвету дык тымчасам аб яе зьмесьце даведваемся з рэцэнзіі Ф. Кляцкова, якая зьявілася ў «Звяздзе» Нр. 165 з 14-VII пад вымоўным загалоўкам «Урокі гісторыі». — Загаловак гэтае рэцэнзіі вельмі трапны, але ня ў тым сэнсе, як гэтага хоча Кляцкоў, бо тое, што калісь дзяржавы вольнага сьвету замала цікавіліся лёсам Беларусі і адмовіліся дапамагчы вызвольнаму беларускаму руху, можа быць для іх сапраўднаю лекцыяю. Не падтрымаўшы беларускага вызвольнага змаганьня, дзяржавы вольнага сьвету не здабылі сабе прыхільнасьці

бальшавікоў, а толькі ўзмоцнілі бальшавіцкі імпэрыялізм. Самое зьяўленьне гэтае кніжкі сьведчыць, што міма нячуванага тэрору незалежніцкая барацьба на Беларусі ня спыняецца. Што да зьместу кніжкі, дык ён вызначаецца тым, што аўтар перакручвае ў неймаверна фантастычны спосаб усе гістарычныя факты з беларускага вызвольнага змаганьня.

**На нараканьнях пачынаюць і канчаюць**

У зьвязку з сёлетнім школьным годам у БССР, сам міністар асьветы І. М. Ільюшын апублікаваў у «Звяздзе» 27-VII артыкул аб падрыхтоўцы да навучальнага году, у якім побач ружовых абяцанак, што запляновна зрабіць у бліжэйшай будучыні, мусіць прызнацца да няцікавага стану таго, што ў сапраўднасьці зроблена. Вельмі характэрнае прызнаньне Ільюшына, што выдавецтва вучэбна-пэдагагічнае літарарури да гэтага часу ня выдала цэлага раду кнігаў, запляннаваных яшчэ ў мінулым годзе. У іх ліку «Мэтодыка выкладаньня беларускае мовы ў пачаткавай школе», «Мэтодыка літаратурнага чытаньня па беларускай літаратуры ў 5 клясе», «Зборнік практыкаваньняў па беларускай мове ў 8-10 клясах» і інш. Няма дзіву, што гэтых падручнікаў ня выдалі, бо-ж іх кожны баіцца зрэдагаваць — ці-ж можа быць інакш у «свабоднай беларускай дзяржаве!?»

У тым-жа нумары газэты побач артыкулу міністра ёсьць здымак новае кнігарні ў Менску і напіс на ёй зроблены ў чысьцюсенькай расейскай мове. Ці-ж трэба лепшага тлумачэньня, чаму да гэтага часу не надрукаваныя названыя кнігі!?

**Чаго толькі папера ня церпіць?!**

Вярхоўны Савет БССР 15-VII г. г. ратыфікаваў аж тры міжнародныя дагаворы: Жэнэўскую канвэнцыю з 12-VIII-1949 г. аб абароне ахвяраў вайны; Канвэнцыю аб палітычных правох жанчын і Канвэнцыю аб папярэджаньні злачынства гэнасыдызму (народабойства) і пакараньні за яго. І гэта робіцца тады, калі на Беларусі штогод зьнікаюць сотні тысяч насельніцтва. Відаць аднак, што савецкія дэлегацыі падпісвалі названыя канвэнцыі ня з лёгкім сэрцам, бо-ж ад часу падпісаньня 16-XII-1949 г. да ратыфікацыі прайшло нямала часу.

## АЎСТРАЛІЯ

**З арганізацыйнага жыцьця**

◉ У днях 24 ліпеня да 1-га жніўня **адведаў Мэльбурн** архіяп. Сяргей галава БАПЦ. З гэтае нагоды адбыўся сход мяйсцовых праваслаўных беларусаў у справе наладжаньня рэлігійнага жыцьця.

◉ **Згуртаваньне Беларусаў у Вікторыі** адбыло 26 чэрвеня гадавы сход. Справаздача ўступаючае ўправы мела на сваім рахунку нямала беларускае нацыянальнае і харытатыўнае дзейнасьці. У склад новае ўправы ЗБВ выбрана: М. Андрэйчыка, П. Мікуліча Ул. Аксіўчыца і М. Рамашку.

◉ **Згуртаваньне Беларускіх Камбатантаў у Вікторыі** за мінулы год побач супрацоўніцтва з іншымі беларускімі нацыянальнымі арганізацыямі ў беларускім грамадзкім жыцьці, ладзіла яшчэ фаховыя рэфэраты і ўтрымоўвала кантакт з спароднёнымі арганізацыямі ў іншых краінах, як гэта выказала справаздача ўступаючае ўправы ЗБКВ на гадавым сходзе 27 ліпеня. У склад новае ўправы выбрана: старшыня — М. Мікуліч, заст. старшыні і скарбнік — Д. Кажура, сакратар — А. К.

## З. Ш. А.

**З навуковага і рэлігійнага жыцьця**

◉ У мінулым акадэмічным годзе 9 сяброў **Беларускага Студэнцкага Таварыства ў Амэрыцы** скончылі свае студыі. З іх Аўгень Вярбіцкі зрабіў дактарат з біяхэміі, Аўгень Ярашэвіч здабыў ступень магістра ў будаўніцтве. Новым беларускім культурным сілам жадаем посьпехаў у далейшым жыцьці.

◉ **Згуртаваньне Беларускіх Жанчынаў у Кліўлянд** зрабіла для беларускае аўтак. прав. царквы Жыровіцкае Божае Маці ў Кліўленд дзьве мастацка выкананыя харугвы. На адной з іх ёсьць абраз Спасіцеля, а на другой Жыровіцкая Богамаці. Кошты харугваў у вышыні 80 даляраў пакрыла згуртаваньне з свае касы.

## ФРАНЦЫЯ

**Даклад прэз. М. Абрамчыка**

Падчас чарговае зборкі Аб'еднаньня Беларускіх Работнікаў у Францыі дня 1-га жніўня ў салі Хрысьціянскага Сындыкату ў Парыжу прэз. М. Абрамчык зрабіў даклад аб апошніх асягненьнях беларусаў на міжнародным грунце і аб выніках сёмае сэсіі Рады БНР. Цікавы і вельмі актуальны даклад быў дапоўнены яшчэ выясьненьнямі ў адказах на пытаньні прысутных.

---

## ТЫДЗЕНЬ СТУДЫЯЎ Б. А. К. А. «РУНЬ».

У папярэднім нумары нашага часапісу, у аб'вестцы аб чарговым Тыдні Студыяў БАКА «Рунь» дзеля недагляду карэктуры падана памылковую дату. Тыдзень Студыяў адбудзецца ня між 24 верасьня і 1-га кастрычніка, але між 23 кастрычніка і 1-га лістапада.

Адначасна з Тыднем Студыяў сябры «Руні» прымуць удзел у Міжнародным Марыйскім Кангрэсе, які ў тым часе будзе адбывацца ў Рыме.

За памылковую інфармацыю Рэдакцыя перапрашае ўсіх сваіх чытачоў і ўправу БАКА «Рунь». **Рэдакцыя**

---

## ПОШУКІ

**Раманоўскі** Ян шукае Браніслава, народжанага ў 1923 г., Канстантына народжанага ў 1926 г. Весткі просіць слаць на адрас: **Ramanouski Jan, 97, Keymer Str. Belmont Perth. W. A. Australia.**

Impr. de Navarre, 11, rue des Cordelières, Paris. Directeur : Abbé L. Horosco.

# Абразкі з жыцьця

## ПЧОЛЫ НАСТАВІЛІ НА РОЗУМ

У 1920 г. перад Калядамі адбыўся публічны дыспут у в. Пакроўская (Расея) на тэму: «Адкуль узялася вера ў Бога?» Малады агітатар Матюшын, пераказаўшы звычайныя цьверджаньні камуністаў аб паўстаньні рэлігіі з бясьсільля першых людзей і страху перад стыхіямі прыроды, стрэнуў між слухачамі аднаго пчаляра, які з глыбокаю ведаю прыродазнаўства, пачаў дапытвацца ў агітатара, адкуль узяліся такія мудрыя і мэтанакіраваныя інстынкты ў пчолаў, якія нават у некаторых выпадках перавышаюць людзкія здольнасьці? Пчолы ня вучацца ў нікога, а працуюць так, што нават людзі з найбольшаю навукаю так працаваць не патрапяць. Пасьля доўгае дыскусіі і пасьля некаторага разважаньня аб тым, хто мог быць стварыцелем інстынктаў, агітатар Матюшын зьмяніў тон свае гутаркі і ўканцы голасна казаў: «Разумны сусьвет сатвораны вялікім Усемагутным Розумам, разумнае можа паходзіць толькі ад разумнага, гэта так відавочна, як тое, што сьветлае паходзіць ад сьветлага, а цёмнае ад цёмнага.

— Дык ёсьць Бог? — спытаўся ў Матюшына пчаляр.

— Так, ёсьць! — адказаў яшчэ нядаўны бязбожны агітатар.

Усе, слухаючы гэты дыспут, за выняткам толькі старшыні, які ўцёк з залі, уславілі Бога пабожным сьпевам. Аднак за сваё шчырае прызнаньне Матюшын заплаціў жыцьцём.

Паводля **Ф. Мельнікава**

## ПРАМАЎЛЯЮЧАЯ ПРЫЛАДА

На адным заготпункце драўніны над Нёманам зімою 1941 г. было вельмі людна. Сяляне з блізкіх і далёкіх вёсак скочвалі ў ярусы выносьлівыя хвоі з Налібоцкае пушчы. Каля аднаго ярусу стаяў актывіст з недалёкае вёскі і камандаваў працаю. Але вось між селян ён дагледзеў інтэлігэнтнае аблічча пажылага чалавека з сівою барадою, які з друкам у руках скочваў цялеш з сваіх сяняў. Актывіст як бачыш распытаў ад кагосьці, што гэты чалавек ёсьць сьвятаром і вось, каб яму чым колечы дапячы, азваўся з кпінамі:

— Гэй, поп, што замяніў ужо крыж на друк?

— А, замяніў, чалавеча, замяніў; і думаю, што добра зрабіў, бо для тых, што ня хочуць слухаць крыжа няма больш пераконваючае рэчы, як друк.

Актывіст ня ведаў, што адказваць, а якісьці дзядзька з гурту заўважыў:

— Войчанька, добра было-б каб і гэтаму «разумнаму» дакінуў некалькі дубовых слоў, можа-б крыху ацьверазіўся.

Далей з гурту пасыпалася пад адрасам актывіста толькі вострых дакораў, што ён моўчкам перайшоў да другога ярусу.

## НЯ СЬМЕЙСЯ ЧУЖОЙ БЯДЗЕ, БО СВАЯ НАПЕРАДЗЕ

Прысьлянтаватая і моцна няпрыгожая Тадора жыла ў суседзтве з красуняю на ўсю вёску — Кацярынаю. Ня раз між імі дайходзіла да сварак і тады заўсёды Кацярына з апошніх слоў папракала Тадору за яе сьлепату і брыдкасьць. Аднойчы сварка была вельмі вострая. Напасьледак, Тадора крыху супакоіўшыся крычала да Кацярыны:

— Што я недабачу, дык я ў гэтым ня вінаватая, але ў цябе вачэй пазычаць ня буду, бо і ты не застрахаваная, што яшчэ горшаю за мяне будзеш. А калі так мяне ганьбіш, дык няхай табе дасьць Бог самой скаштаваць гэткага «шчасьця»...

Праз колькі тыдняў пасьля гэтае сваркі Кацярына разам з сваімі хатнімі малаціла жыта і вытрасаючы салому на кулі, так укалола сабе саломінаю вока, што ёй аж сьвет загарэўся ў вачох. Ніякія рады і лекі нічога не паматлі — вока в вялікім болем выплыла, а да гэтага прычапілася яшчэ нейкая немач і аблічча часткава спараліжавалася. Ад ранейшае прыгажосьці не асталося і сьледу. Калішняя прыгажуня Кацярына сталася нейкаю пакракаю. Тыя, што яе ведалі перш, калі яе часам спатыкалі на вуліцы змарнелую і скурчаную з напоўадчыненым ротам, шапталі:

— Вось як Бог пакараў за злосны язык!

## БОЖАЯ РУКА І З ДНА МОРА ДАСТАЕ

Малады францускі камуніст з усім жарам маладое энэргіі вёў камуністычную прапаганду між работнікамі ў адным брэтонскім горадзе. Маючы пры тым адзін паганы нахіл, ён часам дайходзіў амаль да шаленства. Аднойчы ў прыступе такога шаленства ён кінуўся з мосту ў рэчку з намерам самагубства. Калі ўжо быў на дне ракі і выбіваўся з сілаў, калі ўжо вада пачала заліваць яго лёгкія, раптам у сьведамасьці, быццам у люстры, з маланкаваю хуткасьцю і яснасьцю пачалі праміналь абразы з мінулага жыцьця і ўсе злочыны, якія ён зрабіў за свой век. Тады рэшткамі сілаў ён зьвянуўся да Бога з гарачай малітваю: «Даруй мне, Божа!»...

Цела ўтопленага знайшлі толькі праз паўгадзіны, але настойлівымі захадамі лекараў, яго яшчэ ўдалося адратаваць. Шаленства юнака мінула, але ачуняўшы, ён не забыўся свае малітвы на дне ракі. Ён пайшоў у бліжэйшую парахвію, навучыўся катэхізму, ахрысьціўся і сваею ахвярнаю працаю на карысьць Каталіцкае Царквы стараўся направіць тую шкоду, якую калісьці рабіў камуністычнаю прапагандаю.

## ЗАЯВА ВЯЛІКАГА ВЫНАХОДНІКА І ВУЧОНАГА

Сусьветнае славы вынаходнік і вучоны Тамаш Эдісон (1847-1931) аднойчы казаў: «Я ня п'ю ніякіх ап'яняючых напіткаў, бо мушу абходзіцца ашчадна з маім розумам. А ўводзіць алькаголь у людзкія мазгі, гэта тое самае, што ўсыпаць пясок у падшыпнікі машыны — абодвы тады спынаюць дзейнасьць».

# ЗЬМЕСТ


а. Ч. Сіповіч — 1054-1954 ........................ 1

а. Я. Тарасэвіч — Царква — Містычнае Цела Хрыста ...... 3

а. Л. Гарошка — Справа беларускае каталіцкае ерархіі ў Менску ў 1924 годзе ........................ 4

а. Л. Гарошка — Пад знакам «рускае і польскае веры»...... 6

А. Жменя — Інаўгурацыя ........................ 11

На рэлігійнай ніве ........................ 12

Беларуская хроніка ........................ 14

Тыдзень Студыяў Б.А.К.А. «Рунь» ........................ 16

Пошукі ........................ 16

Абразкі з жыцьця ........................ ***